

# ЗАДАНЬНЕ НА ВОСЕНЬ

Апошні месяц лета прайшоў на палітычным небасхіле пад знакам падрыхтоўкі да дзьвюх буйных акцыяў — выбараў у парлямант і Народнага рэфэрэндуму. Абсалютная большасьць дэмакратычных арганізацыяў Трэцяга сэктару выказалася за байкот лукашэнкаўскіх выбараў і, наадварот, ў падтрымку той сапраўды народнай акцыі, якую, паводле рашэньня КРДС, дэмакраты мусяць ладзіць паралельна з перадвыбарчай кампаніяй.

Якія ж задачы ставіць перад сабою Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў на гэтую восень, якая мусіць быць сапраўды «гарачай»?

Гэтае — задачы як унутранай перабудовы, якія павінны прывесьці да інтэнсыфікацыі дзейнасьці Асамблеі, накіраванай на падтрымку працы яе чальцоў, так і задачы агульнага пляну, якія ўключаюць у сябе арганізацыю масавых мерапрыемстваў, удзел у акцыях дэмакратычных арганізацыяў, працяг канкрэтнае працы па юрыдычнай дапамозе арганізацыям Трэцяга сэктару. Вядома, Асаблея не застаецца ў баку ад агульнаграмадзкага жыцьця. Выпрацаваныя адназначныя адносіны да выбараў дазваляюць весьці канкрэтную працу па арганізацыі «актыўнага байкоту», а таксама актыўна ўдзельнічаць у Народным рэфэрэндуме.

Сярод відавочных дасягненьняў Асамблеі варта ўзгадаць вялікую працу па аналізе наступстваў мінулагодняй перарэгістрацыі грамадзкіх арганізацыяў, вынікам чаго стала выданьне грунтоўнага буклету, а таксама прэсавая канфэрэнцыя, якая адбылася 28 жніўня. Старшыня Рабочай Групы Асамблеі Алесь Бяляцкі, кіраўнік Выканаўчага бюро Алесь Мазур і юрыст Алена Танкачова распавялі прысутным пра тое, як дзяржаўныя органы ставілі арганізацыям усемагчымыя перашкоды і як дэмакратычныя суполкі змагаліся за магчымасьць нармальнай працы.

Перарэгістрацыя праходзіла з 1 лютага па 1 кастрычніка 1999 года. З 2502 грамадзкіх аб`яднаньняў, існуючых у Беларусі, у рэгіструючыя органы зьвярнулася 1537. Адмоўлена ў перарэгістрацыі было 211 аб`яднаньням. Рэпрэсіўны характар рэжыму выявіўся ў тым, што раней існуючы міжнароджна прыняты рэгістрацыйны прынцып стварэньня грамадзкага аб`яднаньня быў заменены на дазвольны, а дзейнасьць незарэгістраваных арганізацыяў была забароненая.

Асамблея аказала прававую дапамогу толькі ў апошні пэрыяд больш за 70 арганізацыям. Гэтая дапамога тычылася ня толькі дапамогі ў перарэгістрацыі, але й экспэртызы розных праектаў, іншых галін працы суполак.

З пачаткам восені грамадзкае жыцьцё значна актывізуецца. І задача Трэцяга сэктару — зрабіць усё магчымае, каб адстаяць свае правы, ня даць магчымасьці рэжыму беспакарана іх парушаць. ◻





# ПАСЕДЖАНЬНІ РАБОЧАЙ ГРУПЫ АСАМБЛЕІ БЕЛАРУСКІХ NGO`s

**28 ліпеня адбылося паседжаньне рабочай групы Асамблеі Дэмакратычных Няўрадавых Арганізацыяў. На парадку дня стаялі пытаньні аб падрыхтоўцы да Трэцяй Асамблеі ДНА, структурнай пабудове Асамблеі ДНА і Рабочай групы, а таксама абмяркоўвалася кампанія па абароне правоў грамадзкіх арганізацыяў.**

Старшынёй аркамітэту па падрыхтоўцы Трэцяй Асамблеі, Б. І. Звозскавым, былі падрыхтаваныя й зачытаныя прысутным «Тэзысы» па першаму і другому пунктам парадку дня. Па першаму пытаньню С. Альфэр, які працаваў у групе юрыстаў па падрыхтоўцы да рэгістрацыі Агульнанацыянальнай Асамблеі, распавёў сябрам РГ аб распрацаванай новай мадэлі стварэньня прынцыпова іншага тыпу няўрадавай арганізацыі - фонду.

Сябры РГ прапанавалі групе юрыстаў больш дасканала папрацаваць у гэтым накірунку, і прадставіць канчатковыя вынікі сваёй працы на наступным паседжаньні Рабочай Групы.

Рабочая Група адзінагалосна зацьвердзіла дату правядзеньня Трэцяй Асамблеі 11-12 лістапада 2000 г.

Сябры РГ з рэгіёнаў вырашылі, што ў групу для непасрэднага кантакту з арганізацыямі на іх тэрыторыі будуць вылучаны непасрэдна кіраўнікі мясцовых Асамблеяў. В. Васількоў адзначыў, што ў Магілеве гэта А. Коўчын. Ад Берасьця абралі І. Кулей, ад Віцебску кандыдатура будзе прадстаўлена апасьля паседжаньня мясцовай Асамблеі. Ад Гародні абраны А. Мілінкевіч.

А. Бяляцкі прапанаваў да Трэцяй Асамблеі стварыць новую Рабочую Групу, каб потым прапанаваць яе ўдзельнікам зацьвердзіць новы састаў РГ. Ён зачытаў прапанову Б. Звозскава па фармаваньню новай Рабочай Групы.

А. Мілінкевіч прапанаваў пакінуць час на абмеркаваньне гэтага пытаньня на абласных Асамблеях і канчаткова вырашыць яго на наступным паседжаньні РГ.

А. Мазур праінфармаваў прысутных аб пачатку кампаніі па абароне правоў ГА і выклаў плян яе правядзеньня.

А. Бяляцкі падкрэсьліў, што плянуецца стварэньне групы юрыстаў, якая будзе працаваць пры РГ і будзе займаццца толькі рэгістрацыяй і перарэгістрацыяй грамадзкіх аб'яднаньняў.

**29 жніўня 2000 г. адбылося чарговае пасяджэньне Рабочай Групы Асамблеі Дэмакратычных Няўрадавых арганізацыяў.**
**На парадку дня стаялі пытаньні аб рэгістрацыі Асамблеі, восеньскіх грамадзкіх кампаніях, вызначэньні статусу Інфармацыйна-аналітычнага цэнтру.**

Кіраўнік Рабочай Групы сп. А. Бяляцкі праінфармаваў сябраў РГ аб прэсавай канфэрэнцыі на тэму «Беларускі Трэці сэктар пасьля перарэгістрацыі 1999 году», якая адбылася 28 жніўня. Ён адзначыў, што гэтая канфэрэнцыя праводзілася ў межах распачатай Асамблеяй НДА кампаніі па абароне правоў грамадзкіх арганізацыяў. А.Бяляцкі пералічыў усе заплянаваныя акцыі кампаніі. Ён падкрэсьліў, што галоўная яе мэта - паказаць беларускай і замежнай грамадзкасьці, што Трэці сэктар Беларусі зараз знаходзіцца ў цяжкім становішчы.

Прысутным быў зачытаны графік восеньскіх кампаніяў:

- 8.09.2000 - Дзень вайсковай славы,
- 1 і 14.10.2000 - масавыя акцыі ў Менску,
- 08.10.2000 - масавыя акцыі ў Бабруйску й Баранавічах,
- з 1 па 15.09.2000 - кампанія «народных выбараў»,
- з 15 па 29.09.2000 - агітацыя да няўдзелу ў выбарах.

Галоўная мэта гэтых акцыяў - аб'явіць байкот выбарам у Палату Прадстаўнікоў. З гэтай нагоды Рабочая Група Асамблеі прыняла зварот да ўсіх сябраў Асамблеі ў выглядзе Заявы.

Сп. Б. Звозскаў выклаў прысутным параўнальны аналіз дзьвюх формаў рэгістрацыі Агульнанацыянальнай Асамблеі ДНА - Фонду і Асацыяцыі. Ён прапанаваў зарэгістраваць Асамблею ў форме Асацыяцыі грамадзкіх аб'яднаньняў і юрыдычна абгрунтаваў сваю прапанову. Групе юрыстаў прапанавана распрацаваць Статут і Установчую Дамову ды разаслаць іх на абмеркаваньне сябрам Асамблеі.

Б. Звозскаў адзначыў галоўныя прынцыпы Асацыяцыі:

- дабраахвотнасьць заснавальнікаў;
- раўнапраўе прадстаўнікоў;
- неўмяшальніцтва ў справы грамадзкіх аб'яднаньняў;
- супрацоўніцтва па пытаньнях, якія прадстаўляюць узаемны інтарэс;
- роўнасьць правоў заснавальнікаў і ўступаючых.

Б. Звозскаў парпанаваў скласьці ліст-зварот у АБСЭ для тога, каб там распачалі кантроль за працэсам рэгістрацыі Асамблеі ДНА.

Па трэцім пытаньні выступіў сп. У. Роўда, які распавёў прысутным гісторыю ўзьнікненьня Інфармацыйна-аналітычнага цэнтру й зачытаў прынятую 5 сьнежня 1999 года пастанову па разьмеркаваньню абавязкаў паміж Выканаўчым бюро і ІАЦ. У выніку гэтай Пастановы павінна была быць прынятая Дамова паміж ІАЦ і РГ Асамблеі ДНА, у выніку якой ІАЦ атрымаў бы статус ІАЦ Асамблеі ДНА. Але гэтая Дамова прынятая не была. Таму зараз паўстала пытаньне аб яе прыняцьці. У выніку А. Бяляцкаму даручана абмеркаваць тэкст Дамовы з У. Роўдам і, калі няма заўвагаў, дык падпісаць яе, а калі ёсьць, дык вынесьці іх на абмеркаваньне РГ.

## З А Я В А

**Рабочай групы Асамблеі Дэмакратычных Няўрадавых арганізацыяў Беларусі**

**Кіруючыся рашэньнем Кангрэсу Дэмакратычных Сілаў аб няўдзеле ў восеньскіх выбарах у Палату Прадстаўнікоў, Рабочая група Асамблеі НДА заяўляе сваю салідарнасьць у правядзеньні байкоту выбараў у Палату Прадстаўнікоў 2000 году і з гэтае нагоды заклікае сваіх сябраў актыўна ўключыцца ў гэтую кампанію.**



**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:**

# “МЫ ПОЙДЗЕМ У НАРОД”



— *Спадар Анатоль, які палітычны падмурак акцыі, якая атрымала назоў «Народны рэфэрэндум» ці «Народныя выбары»?*

— Прававы й палітычны падмурак гэтай агульнарэспубліканскай акцыі — рашэньне Каардынацыйнае Рады дэмакратычных сілаў. Мэта Народнага рэфэрэндуму — шэсьце ў народ, ад дзьвярэй да дзьвярэй, камунікацыя зь людам праз мэханізм збору подпісаў. Таксама будзе праводзіцца тлумачальная работа аб сытуацыі ў краіне, аб «актыўным байкоце» лукашэнкаўскіх выбараў.

Наша задача таксама — выйсьці на тыя 50 адсоткаў жыхароў Беларусі, якія не чытаюць незалежную прэсу, ня слухаюць незалежнае радые. Іншага мэханізму проста няма — бо дзяржаўныя газэты, радыё й ТБ цалкам заангажаваныя.

Акром таго, мы павінны высьвятліць, дзе жывуць нашыя прыхільнікі, каб пад час выбараў прэзыдэнта ў хуткі тэрмін сабраць неабходную колькасьць подпісаў за кандыдата аб`яднанай апазыцыі.

— *Якая тэхналёгія збору подпісаў прапануецца?*

— Актыўная кампанія распачатая 1 верасьня. Зборшчыкам у рэгіёнах мы прапануем спалучыць правядзеньне Народнага рэфэрэндуму з рашэньнем — таксама мэтадам збору подпісаў — канкрэтных лякальных, рэгіянальных пытаньняў, тых, што блізкія тамтэйшаму люду. За тым — больш глябальныя пытаньні.

Мы чакаем небясьпекі не ад насельніцтва, якое ня можа выступаць супраць правядзеньня празрыстых, справядлівых выбараў, а, у першую чаргу, ад уладаў. І ўлады рыхтуюцца, нават ствараюцца «эскадроны», якія будуць вылоўліваць людзей, што стануць зьбіраць подпісы. Нават у кандыдатаў у дэпутаты бярэцца падпіска аб тым, што яны ня стануць заклікаць да байкоту пад час сустрэчаў з выбаршчыкамі...

— *Ці будут прынятыя меры супраць гэных «эскадронаў»?*

— Мы ствараем рэспубліканскую сыстэму бясьпекі. Калі чалавек трапіў у складаную сытуацыю, ён не застанецца неабаронены ні юрыдычна, ні матар`яльна, калі гутарка пойдзе пра накладаньне штрафаў.

— *Спадар Анатоль, на вашае меркаваньне, ці пройдуць у палату прадстаўнікоў пэўныя з тых дэмакратаў, што возьмуць удзел у выбарах?*

— «Чырвоны дом» выдзяліў квоту, і некаторыя людзі будуць дапушчаныя ў парлямант дзеля таго, каб паказаць міжнароднай супольнасьці, што выбары прайшлі ў канкурэнтнай барацьбе. Прынамсі, я б не назваў дэмакратамі некаторых з тых, хто ідзе на выбары пад маркай апазыцыі. Тое, што робяць, напрыклад, Фядута, Абрамава, Навасяд, супаставіма зь дзеяньнямі ўладаў супраць апазыцыі. Яны дапамагаюць рэжыму легітымізаваць выбары. Што да Захаду, дык там склалася такое меркаваньне, маўляў, гэтае — ваша справа; але там не разумеюць сытуацыю, калі некаторыя становяцца кандыдатамі і адначасова заклікаюць да байкоту... ■





БЮЛЕТЭНЬ №5 ЖНІВЕНЬ 2000



### ПАКУТНІКАМ ЗА ВОЛЮ

У Маладэчне актывісты дэмакратычных партыяў і прыхільнікі незалежнасьці ўсклалі кветкі да памятнага знаку «Пакутнікам за волю й незалежнасьць Беларусі» на цэнтральным пляцы гораду. Пасьля ўскладаньня кветак і чытаньня вершаў людзі скіраваліся ў гарадзкі парк, каб паслухаць беларускага барда Андрэя Мельнікава. Але ў парку нечакана пачаўся «хапун». Былі затрыманыя Алесь Капуцкі (старшыня Маладэчанскай Рады БНФ), Сяргей Боскін, Яўген Лугоўскі. У РАУСе, куды завезьлі затрыманых, міліцыянты абвінавачвалі іх у несанкцыянаваным мерапрыемстве. На Я. Лугоўскага быў складзены пратакол за выкарыстаньне незарэгістраванай сымболікі. Пазньней усіх затрыманых адпусьцілі.

### ШПАЦЫР ЗЬ ПЕСЬНЯМІ

Мітынг, які мусіў прайсьці на марынагорскім стадыёне, быў забаронены старшынёй Пухавіцкага райвыканкаму Г. Шахлевічам. Каб не абвастраць становішча, арганізатары вырашылі мітынг не праводзіць. Нягледзячы на забарону, сабралося блізу 100 чалавек. На патрабаваньне начальніка Пухавіцкага РАУС Р. Барысава разыйсьціся, людзі адмовіліся, заявіўшы, што мітынгаваць не зьбіраюцца, а будуць толькі сьпяваць песьні, бо сьвята ніхто не адмяняў. На канцэрце выступілі бард Аляксей Галіч і фальклёрны гурт зь вёскі Талька. Пасьля канцэрту сьвяткаваньне ня скончылася. Група энтузіястаў у народных строях, зь бел-чырвона-белымі навязкамі на галовах і сьцягамі на плячах, сьпяваючы народныя й патрыятычныя песьні, адправіліся на шпацыр па горадзе. Затрыманьняў не было.

### ДЫК ДЗЕ КАНКРЭТНЫЯ ЗРУХІ?

Напярэдадні сустрэчы 30 жніўня ў Вене прадстаўнікоў эўраструктураў, дзе будзе вырашацца пытаньне накіраваньня міжнародных назіральнікаў на восеньскія выбары, аб'ядналая беларуская апазыцыя накіравала зварот у Парляманцкую асамблею АБСЭ, Раду Эўропы, Эўрапарлямант, Эўразьвяз. У прынятым дакуманьце ёсьць выказанае стаўленьне Каардынацыйнай Рады дэмакратычных сілаў да сытуацыі,што склалася ў Беларусі. У дакуманьце адзначаецца, што няма ніякіх падставаў лічыць, быццам беларускае кіраўніцтва зрабіла канкрэтныя зрухі ў бок дэмакратызацыі беларускага грамадзтва. Па сутнасьці, ня выкананы ніводны з чатырох пунктаў, на якіх настойвала АБСЭ, ня ўнесеныя зьмены ў выбарчае заканадаўства, па-ранейшаму захоўваецца татальны кантроль за электроннымі сродкамі масавай інфармацыі.

### ТОЛЬКІ ПА-БЕЛАРУСКУ!

У красавіку ТБМ даслаў зварот да паслоў шэрагу краінаў сьвету з просьбай зьвярнуць іх увагу на ігнараваньне беларускай мовы пры маркіроўцы імпартаваных тавараў. ТБМ прасіў давесьці гэтую інфармацыю да таваравытворцаў у сваіх краінах, якія займаюцца экспартам вырабаў у Рэспубліку Беларусь. Як выключэньне прыводзіліся тавары гішпанскай вытворчасьці, якія ўлічваюць моўную прыналежнасьць сваіх спажыўцоў у Беларусі. На гэты заклік ужо адгукнуўся Нямецкі Саюз прамыслова-гандлёвых палатаў.

### БЕЗЬ ІЛЮЗІЯЎ

Каардынацыйная Рада дэмакратычных сілаў Маладэчна накіравала новаабранаму старшыні гарвыканкаму Чурсіну М.У. ліст з прапановай сустрэцца зь лідэарамі няўрадавых арганізацыяў і палітычных партыяў гораду «з мэтай абмеркаваць тую атмасфэру, якая склалася ў апошнія гады паміж уладнымі структурамі і грамадзкім сэктарам, і наладзіць нармальныя кантакты і паразуменьне». Па словах аднаго з падпісантаў, аўтары ліста ня маюць вялікіх ілюзіяў, што такая сустрэча адбудзецца, бо цяперашняя вертыкаль, як вядома, ня вольная ў сваіх дзеяньнях, але ж даць шанец новаму мэру праявіць добрую волю ў адносінах да тых, хто прадстаўляе значную частку грамадзтва, яны лічаць вартым.

### «РУКІ Ў АБАРОНУ ДЗЯЦЕЙ»

Акцыю «Рукі ў абарону дзяцей» праводзіць маладзёвы адукацыйны цэнтар «Фіяльта». На вялізным палатне дзеці Беларусі паставяць водціскі сваіх рук, каб тым самым нагадаць дарослым пра свае правы. Рукі будуць зьбірацца па ўсіх школах, інтэрнатах, лягерах. Акрамя таго, самі дзеці атрымаюць магчымасьць зьвярнуцца да дарослых са сваімі зваротамі і прапановамі. Усе звароты будуць уключаныя ў кнігу «Адкрый наш сьвет». Акцыя завершыцца выставай у Менску 19 верасьня.

### ЛЕТНІ ЎНІВЭРСЫТЭТ ЮНЭСКА

Міжнародны Летні ўнівэрсытэт клюбаў ЮНЭСКА праходзіць на працягу 18 дзён ў Радашковічах. Унівэрсытэт зьбірае каля 260 юнакоў і дзяўчат, якія працуюць у клюбах ЮНЭСКА ў Беларусі, Румыніі, Латвіі, Якуціі, Украіне. Адукацыйны Форум прадугледжвае правядзеньне адукацыйных сэкцый, круглых сталоў, прэсавых канфэрэнцый, культурных і спартовых акцыяў. Лепшыя са студэнтаў атрымаюць па выніках унівэрсытэту сэртыфікаты.

### ВАЙСКОВАЯ СЛАВА БЕЛАРУСІ

Сп. Юры Хадыка й Віктар Івашкевіч падалі заяўку на правядзеньне 8 верасьня традыцыйнага сьвята Дня беларускай вайсковай славы. Гэтае сьвята будзе адзначацца ўжо 10-ы год, у гэты дзень у 1514 годзе рыцары пад кіраўніцтвам Вялікага гетмана Канстанціна Астрожскага атрымалі бліскучую перамогу над войскамі інтэрвэнтаў пад Воршаю. Па плянах арганізатараў, сёлета сьвяткаваньне 8-га верасьня мусіць пачацца маляўнічай працэдурай ускладаньня кветак да помніку Перамогі з 18.00 да 18.30. Потым адбудзецца шэсьце ўдзельнікаў сьвята ад плошчы па цэнтральнай частцы праспэкту Скарыны да Купалаўскага сквэру, дзе будуць ускладзеныя кветкі да помніку Янку Купалу. Заключнай часткай сьвяткаваньня стане канцэрт беларускіх гуртоў, які працягнецца да дзевятай гадзіны вечару. Акцыі, прысьвечаныя Дню беларускай вайсковай славы, пройдуць і ў шэрагу іншых гарадоў Беларусі.

### А СУДЗЬДЗІ ХТО?

Менскае аддзяленьне Беларускага Хэльсынскага Камітэту прыняло рашэньне вынесьці 7 верасьня на разгляд пытаньне аб адстаўцы старшыні камітэту Тацяны Процькі. Па-ранейшаму актуальныя абвінавачаньні ў палітычнай заангажаванасьці кіраўніцтва і, такім чынам, дыскрэдытацыі буйнейшай праваабарончай арганізацыі краіны. Нагадаем, напачатку лета аб сваім выхадзе з БХК ў адкрытым лісьце заявілі чатырнаццаць прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі - ганаровыя сябры камітэту на чале з Васілём Быкавым. Тады ў віну Тацьцяне Процьцы ставіўся таксама ўдзел у падрыхтоўцы грамадзка-палітычнага дыялёгу, ініцыяванага Аляксандрам Лукашэнкам. Менскае аддзяленьне фактычна аднадушнае ў дадзеным пытаньні. Мяркуецца, што канчаткова вырашыць гэтае кадравае пытаньне атрымаецца ў сярэдзіне наступнага месяца, калі 16 верасьня пройдзе агульны сход камітэту, на якім разам зь менскім аддзелам будуць прысутнічаць прадстаўнікі ўсіх рэгіянальных структураў БХК.

### ПАДАТКАВІКІ «НАЯЖДЖАЮЦЬ»

Грамадзкім аб'яднаньнем «Грамадзянскія ініцыятывы» (м. Гомель) быў атрыманы ліст ад падатковага камітэту, у якім паведамлялася аб чарговай выязной праверцы, што мае адбыцца ў жніўні. За апошні час гэта ўжо шостая праверка. Статыстыка правядзеньня рэвізіяў іншых грамадзкіх аб'яднаньняў сьведчыць аб якойсьці асаблівай зацікаўленасьці да «Грамадзянскіх ініцыятываў» з боку падатковых і іншых кантралюючых органаў. Кіраўнік абяднаньня В. Карніенка лічыць, што аб'ектыўных прычынаў для такой пільнасьці няма: аб'яднаньне не займаецца эканамічнай дзейнасьцю, не зьяўляецца суб'ектам гаспадараньня, і за ўвесь час свайго існаваньня сродкаў зь дзяржаўнага бюджэту не атрымлівала. У адпаведнасьці з п.6 палажэньня «Аб парадку арганізацыі і правядзеньня праверак (рэвізій) фінансава-гаспадарчай дзейнасьці і выкарыстаньня эканамічных санкцыяў» рэвізія аднаго і таго ж суб'екта прадпрымальніцкай дзейнасьці можа праводзіцца ня больш, чым адзін раз ў год. А аб'яднаньне «Грамадзянскія ініціятывы» падатковая праверка ўжо наведвала ў лютым.

Аднак жыцьцё ў арганізацыі працягваецца нягледзячы на праверкі. На сёньня заплянаваны цыкль трэнінгаў-сэмінараў па падрыхтоўцы і напісаньню праектаў. Галоўная мэта - дапамагчы сваім партнэрам у падрыхтоўцы і афармленьні праектаў. На сёньняшні дзень ужо адбыліся два трэнінгі, ўдзельнікамі якіх былі прадстаўнікі грамадзкіх аб'яднаньняў сацыяльнага напрамку, такіх, як абласное грамадзкае аб'яднаньне «Дзіцячая гематалёгія», гарадзкая арганізацыя «Сям'я», цэнтар сацыяльнай і духоўнай падтрымкі «Гармонія». Трэба адзначыць, што гэтую акцыю «Грамадзянскія ініцыятывы» праводзяць за ўласныя сродкі.

### КАБ НАМ НЕ АТРУЦІЦЦА

Прадстаўнікі грамадзкага аб'яднаньня «Грамадзянскія ініцыятывы» гораду Рэчыца Уладзімер Кашчанка і Аляксандар Зайцаў вырашылі прыцягнуць увагу грамадзкасьці да распаўсюду па сэтцы рэчыцкіх крамаў пратэрмінаваных харчовых прадуктаў. Імі былі выяўленыя выпадкі продажу пратэрмінаванай прадукцыі, былі зафіксаваныя некалькі фактаў, калі замест тэрміну захоўваньня прадукту на ярлыках пішуць, калі прадукт быў атрыманы. Зь інфармацыяй аб парушэньнях актывісты арганізацыі зьвярнуліся да мясцовых выканаўчых структураў, але падобная ініцыятыва з боку прадстаўнікоў грамадзкай арганізацыі не спадабалася намесьніку старшыні гарвыканкаму па сувязях з грамадзкасьцю Віталю Атаманчуку. Былы супрацоўнік камітэту дзяржаўнай бясьпекі, вырашыўшы праявіць уладу, выклікаў міліцыю й запатрабаваў адвезьці Уладзімера Кашчэнку й Аляксандра Зайцава на медсьведчаньне на ўтрыманьне ў крыві алькаголю. Работнікі мясцовай міліцыі аказаліся больш дальнабачнымі, і пасьля невялікай размовы зь імі намесьнік старшыні гарвыканкаму выказаў свае прабачэньні затрыманым.

### АРГАН... ТАКСАМА ТРЭБА ЗАВАЁЎВАЦЬ

Цікавыя партнэрскія сувязі наладжваюцца паміж рэчыцкім прадстаўніцтвам грамадзкага аб'яднаньня «Грамадзянскія ініцыятывы» і пробашчам мясцовай каталіцкай парафіі Сьвятой Тройцы Гжэгажам Худэкам. Каталіцкі сьвятар вядомы ў горадзе тым, што прыкладна паўгады таму яму прыйшлося літаральна адваёўваць касьцёл у мясцовых уладаў. Ксёнз таксама спрабаваў зьвяртацца да праваслаўных гіерархаў з прапановай правядзеньня сумесных культурных мерапрыемстваў, напрыклад, арганізацыя канцэртаў арганнай музыкі. Але ўсе яго ідэі пакуль не былі запатрабаваныя. Па словах прадстаўніка «Грамадзянскіх ініцыятываў» Аляксандра Зайцава, ксёнз зьвярнуўся да іх з просьбай дапамагчы ў выданьні рэклямных буклетаў да маючага адбыцца канцэрту арганнай музыкі. Са свайго боку ён прапанаваў дапамогу ў наладжваньні сувязяў з польскімі грамадзкімі аб'яднаньнямі і прадаставіў да карыстаньня сябраў арганізацыі ўласную электронную пошту. У пэрспэктыве далейшага супрацоўніцтва - выданьне зборніку царкоўных песьняў на беларускай мове. Зараз ксёнз піша свае артыкулы ў бюлетэнь арганізацыі і мае жаданне нават адкрыць у ім сваю старонку.



МЕНШЧЫНА

### ВЯЛІКІ НАЕЗД НА «МАЛУЮ» ПРЭСУ

Перад будучымі парляманцкімі і прэзыдэнцкімі выбарамі ўлады Магілеўшчыны робяць спробы цалкам, на 100% манапалізаваць рынак сродкаў масавай інфармацыі. Пры чым пад «зачыстку» трапляюць усе, нават маланакладныя незарэгістраваныя газэткі. Спосабы, што выкарыстоўваюцца пры гэтым, з упэўненасьцю можна назваць «неразборлівымі».

Як мы ўжо паведамлялі, у сярэдзіне красавіка бягучага года, рэдактарам крычаўскіх недзяржаўных выданьняў «Крычаўскі праваабарончы весьнік», «Наша думка» й«Маладзёвы кур'ер» патэлефанавала галоўны спэцыяліст аддзела па друку Магілеўскага аблвыканкаму В.Ткачова. Яна вылучыла шэраг патрабаваньняў заснаваных на аксіёме «...дзяржава павінна кантраляваць на тэрыторыі Магілеўскай вобласьці ўсе выданьні...» да рэдакцый вышэйназваных газет. Патрабаваньні былі палічаны непрымальнымі. На гэтым размова скончылася.

І вось зараз гісторыя з крычаўскімі незалежнымі выданьнямі атрымала працяг. Рэдактары «Крычаўскага праваабарончага весьніка», «Нашай думкі» й «Маладзёвага кур'ера» былі выкліканыя ў мясцовую пракуратуру, дзе зь іх было ўзятае тлумачэньне памочнікам крычаўскага міжрайпракурора Г. Новікавым. Пракурорскага работніка цікавілі шмат якія пытаньні, ключавым сярод якіх было: дзе на выдавецтва бяруцца грошы. На разьвітаньне спадар Новікаў параіў пастаянна дасылаць кантрольныя асобнікі выданьняў у аблвыканкам і некаторыя іншыя дзяржаўныя ўстановы, а таксама зьмяніць выходныя дадзеныя, маўляў, гэтага патрабуе Закон аб друку. У адваротным выпадку, справа будзе перададзена ў суд.

Кожнаму, хто хоць крышачку знаёмы з Законам аб друку, вядома, што ён тычыцца друкаваных сродкаў масавай інфармацыі, якія выдаюцца накладам звыш 300 асобнікаў. А крычаўскія незалежныя выданьні выходзяць накладам да 299 асобнікаў. Аднак ці мае гэта прынцыповае значэньне для сёньняшняй улады. Канешне не. Галоўнае тое, што «...дзяржава павінна кантраляваць на тэрыторыі Магілеўскай вобласьці ўсе выданьні...»

## МІЛІЦЫЯНТ НАВУЧЫЎСЯ ПАВАЖАЦЬ ЗАКОН

Прадстаўнік праваахоўных органаў (на жаль, ён не жадае, каб яго імя гучала ў прэсе) у неафіцыйнай абстаноўцы падзякаваў шматдзетную маці Л.В. Чэпікаву, якая ўжо не адзін год актыўна абараняе правы як свае, так і сваіх дзяцей (апошнім часам з дапамогай Крычаўскага праваабарончага цэнтру). Сваю падзяку міліцыянт матываваў тым, што, дзякуючы гэтай жанчыне, ён навучыўся паважаць закон і адчуваць адказнасьць за свае дзеяньні.

## А ЯК У КЛІМАВІЧАХ?

Клімавіцкі раён, на сваім прыкладзе, можа выдатна праілюстраваць становішча, якое склалася ў народнай гаспадарцы краіны. За 1999 год, у параўнаньні зь мінулым годам, прамысловая вытворчасьць скарацілася на асобных прадпрыемствах на 4-8%. Усяго ж у раёне 46 стратных прадпрыемстваў, а камбінат будаўнічых матар'ялаў увогуле спыніў сваю працу. Вытворчасьць тавараў народнага спажываньня склала 80% да ўзроўню 1998 года. Некаторыя калгасы й саўгасы не атрымлівалі заробку з сакавіка гэтага года. Рост злачыннасьці склаў 124%.

Дадаць да гэтага можна вядомую фразу — ёсьць дзьве навіны: добрая і дрэнная. Добрая — Клімавіцкі раён заняў другое месца ў абласным спаборніцтве па выніках сацыяльна-эканамічнага развіцьця за 1999 год. Цікава, якія ж тады паказчыкі ў іншых раёнах Магілеўскай вобласьці, калі ў параўнаньні зь імі Клімаўшчына займае такое пачэснае месца? А дрэнная навіна яшчэ цікавей — адхілены ад займанай пасады начальнік аддзела статыстыкі Аляксандр Марфель. Кажуць, што «за неаднаразовыя сур'ёзныя памылкі ў рабоце».

## ДЫК І П'ЮЦЬ ЖА Ў МСЬЦІСЛАВЕ!

На сёньняшні дзень у Мсьціслаўскім раёне склалася незайздроснае становішча са спажываньнем спіртовых напояў. Справа ў тым, што надзвычай вялікая колькасьць мсьціслаўцаў трапіла ў кіпцюры да «зялёнага зьмія».

Па стане на пачатак жніўня 2000 года, 353 жыхары старажытнай Мсьціслаўшчыны стаялі на ўліку ў наркалягічным кабінэце мясцовай райбольніцы. Ды і астатнія мсьціслаўцы, згодна статыстычных дадзеных, верагодней за ўсё, часьцяком злоўжываюць сьпіртным, бо сьмяротнасьць у раёне наўпрост зьвязана з хваробамі сыстэмы кровазвароту (49,8% памерлых у 2000 годзе), няшчаснымі выпадкамі, атручваньнямі й траўмамі (7,7%), а таксама з судзіннымі паразамі мозагу (6,9%).

Не для кога не зьяўляецца сакрэтам, што вышэйпералічаныя хваробы й няшчасьці ў большасьці выпадкаў зьвязаныя з пачашчаным спажываньнем моцных напояў.

## МІЛІЦЫЯНТЫ СТРАЛЯЮЦЬ У ДЗЯЦЕЙ

П'яныя бабруйскія міліцыянты абстралялі моладзевы летнік у лесе непадалёк ад Бабруйску. Летнік быў наладжаны *тутэйшымі маладымі сацыял-дэмакратамі*, а ўдзел у ім бралі сябры мясцовых філіяў Маладога Фронту, Грамадзянскага Форуму, Беларускай Партыі Свабоды, ды проста цікаўныя маладыя людзі. Летнік быў арганізаваны як *Вольная Краіна пад вольным* бел-чырвона-белым сьцягам: тут меўся свой дэмакратычна абраны прэзыдэнт, парлямант, дзейнічала канстытуцыя і нават Крымінальна-працэсуальны кодэкс. Міліцыянты зьявіліся пры межах краіны на трэці дзень яе існаваньня і пачалі ўсіх здымаць на відэакамэру. Грамадзяне не пасьпелі прыняць рашэньне, ці сыходзіць зь месца, як пачуўся першы стрэл. Адзін з тых міліцыянтаў прастрэліў сьцяг, а шрот ад выбуха прапаліў джынсы дзяўчынцы. Калі вольныя беларусы сыходзілі, міліцыянты стрэлілі яшчэ тры разы. Шакаваная такім нахабствам група моладзі мае намер шукаць праўды ў праваабарончых структураў.

***

У Бабруйску працягваецца разьбіральніцтва па справе *страляніны ў маладзёвым лягеры. Нагадаем, што* напачатку жніўня некалькі дзесяткаў маладых людзей з дэмакратычных аб'яднаньняў гораду ладзілі летнік «Вольная краіна». У адзін зь дзён каля лягеру праходзіла некалькі паляўнічых, прычым некаторыя зь іх былі нападпітку. Убачыўшы бел-чырвона-белы сьцяг на флагштоку над намётам, адзін з паляўнічых распачаў стральбу па ненавіснаму сымбалю. Падчас стрэлаў дроб параніла 16-гадовую дзяўчыну. Моладзь зьвярнулася ў пракуратуру. Высьветлілася, што стралком аказаўся прадстаўнік кіраўнічых структураў гораду. Пасьля інцыдэнту прадстаўнікі органаў унутраных справаў пачалі выклікаць пацярпелую й сьведак на прафіляктычныя размовы, падчас каторых вельмі настойвалі адмовіцца ад дачы паказаньняў. Пры гэтым выкарыстоўваліся запалохваньні, *Віталю Красьнеўскаму*, аднаму з удзельнікаў летніку, пагражалі адлічэньнем з тэхнікуму. Супрацоўнікі міліцыі запатрабавалі аддаць прастрэлены сьцяг і фотаздымкі, на якіх зафіксаваныя твары паляўнічых.

***

Надоечы сьледчы Бабруйскага УУС меў сустрэчу з прадстаўніком БХК. Зараз дакладна вядомае прозьвішча чалавека, які першым напаў на летнік, яно добра знаёмае кожнаму жыхару горада. Падпісантам заявы ўжо пагражалі й патрабавалі адклікаць яе, але ж моладзь вырашыла абараніць сябе. Кантралюе гэтую справу сам пракурор, які ўжо таксама меў размову з пацярпелымі.

## НЕМЦЫ РАМАНТУЮЦЬ ДУШАВЫЯ

Магілеў наведала дэлегацыя супрацоўнікаў нямецкага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобылю». Як звычайна, прывезьлі гуманітарную дапамогу агульным коштам у 180 тысячаў марак. Незвычайным было тое, што самі немцы працавалі ў Барсукоўскай школе-інтэрнаце — рамантавалі душавыя кабіны. Праца працягвалася па 12 *гадзінаў штодня пры тым, што супрацоўнікі фонду* - прадстаўнікі самых розных прафэсіяў, толькі не будаўнікі. Дапамога, якую прывезьлі немцы, перададзеная ў гарадзкія бальніцы. 30% усіх лекаў, якія патрабуе магілеўская гарбальніца, прыяжджаюць сюды зь Нямеччыны. Нямецкі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля» супрацоўнічае з фармацэўтычнымі фірмамі, свае ахвяраваньні ўкладаюць жыхары гораду Аалену. Гэтым разам машыны для транспартыроўкі бясплатна прадставіла кампанія Mersedes.

## МАЛАДЫ ФРОНТ АДВАЯВАЎ МАРШРУТ

Сябры магілеўскай арганізацыі Маладога Фронту робяць чарговы наступ на гарадзкія сацыяльныя праблемы. Мінулай зімой, калі падчас экспэрымэнту з грамадзкім транспартам уладамі быў адменены аўтобусны маршрут N 7, сябрамі МФ было сабрана блізу 800 подпісаў, пасьля чаго маршрут быў вернуты пасажырам, а беларуская моладзь атрымала добры досьвед працы зь людзьмі. Цяпер маладафронтаўцы сабралі подпісы за пуск ліфту ў доме па адрасе вул. Турава, 10, дзе жыве *адзін з актывістаў* МФ. *Тут быў скрадзены* кабэль сілкаваньня, і рамонтнікі паабяцалі ўсё вырашыць на працягу двух месяцаў. Увесь гэты час жыхарам даводзілася хадзіць на дзясяты паверх пешшу. Сабраныя подпісы былі накіраваныя ў мясцовы гарвыканкам, *але ніякай* рэакцыі ад яго не было на працягу некалькіх тыдняў. Пасьля гэтага сябры Маладога Фронту падалі заяўку на правядзеньне пікету, але і яе зарэгістравалі зь цяжкасьцю, а пікетоўшчыкаў накіравалі ў бязьлюднае месца на ўскрайку гораду. Сябры арганізацыі накіравалі адкрыты ліст да старшыні Магілеўскага гарвыканкаму М. Краснова з рэакцыяй на падобныя крокі і чарговай заявай на правядзеньне пікетаваньня ў цэнтры Магілеву.

## КРЫНІЦА ІСНАВАНЬНЯ КРЫЧАЎЦАЎ

Сёньня сталася так, што вялікая колькасьць беларусаў, і ў першую чаргу жыхароў правінцыі, апынуліся за рысай беднасьці. Настаўнікі, прадаўцы, калгасьнікі, мэдработнікі сярэдняга звяна і яшчэ вялікая колькасьць грамадзян Беларусі ня могуць зьвесьці канцы з канцамі.

Большасьць з вышэйпералічаных катэгорыяў грамадзян, а таксама беспрацоўныя й пэнсіянэры, упарта шукаюць магчымасьць, каб здабыць дадатковую тысячу-другую грошай, каб кожны дзень мець магчымасьць паесьці. Напрыклад, значная колькасьць крычаўцаў, *клімаўцаў, касьцюкоўцаў і іншых жыхароў усходнебела*рускіх раёнаў, што размешчаны ўздоўж чыгуначнай веткі Крычаў-Унеча, зарабляюць тым, што вывозяць у памежныя расейскія гарады й мястэчкі параўнальна танныя беларускія тварог, смятану й кефір. Акрамя таго — вырашчаныя на асабістых «сотках» бульбу й гародніну, свойскія сала й мяса.

Зараз гэта робіцца ў асноўным з-за таго, каб нагандляваць расійскіх грошаў, а потым на іх набыць таньнейшыя чым на Радзіме рыбу, цыгарэты, цукар, муку, рыс, макаронныя вырабы, ды іншыя тавары.

*Што ж, кожны выжывае як можа.*

## «ЯСТРАБКІ» Ў КРЫЧАВЕ

У часы праўленьня «отца всех народов» Іосіфа Сталіна сыстэма ўзаемаадносінаў дзяржавы з даносчыкамі (стукачамі) працавала абсалютна бездакорна, як стары *добры гадзіньнікавы мэханізм. Ланцугі брудных і* часцей ілжывых даносаў літаральна апуталі савецкае грамадзтва таго часу. Ад небясьпекі паклёпніцтва не быў застрахаваны ніхто. «Стучалі» усе. Справа была пастаўлена на шырокую нагу: дзеці даносілі на бацькоў, падначаленыя — на начальнікаў, сябры — на сяброў... Няшчасных, нічога не разумеючых ахвяраў афіцыйных «стукачоў» хапалі людзі «з чыстымі рукамі і гарачымі сэрцамі» і валаклі ў студзёную Сібір ці, для спрашчэньня справаводзтва, стралялі ім у патыліцы з рэвальвару сыстэмы «Наган».

Аднак гэта было даўно, ды і часы тады былі ліхія, змрочныя. Як казалі некаторыя: «Лес рубяць трэскі ляцяць!». Зараз зусім ня так. Калі можна так сказаць, зараз гэта справа вядзецца больш мякка, больш гуманна, «па-эўрапейску».

Паводле словаў кіраўнікоў шэрагу крычаўскіх арганізацыяў і прадпрыемстваў, незалежна ад формы ўласнасьці. на працягу жніўня бягучага года, імі было атрымана спэцыяльнае распараджэньне. Згодна гэтаму распараджэньню, разасланаму Крычаўскім райвыканкамам, у калектывах крычаўскіх прадпрыемстваў у пэўныя тэрміны неабходна сфармаваць мабільныя групы (па колькаснаму складу ня менш за тры чалавекі) з паслухмяных і палітычна надзейных работнікаў. Сьпісы сфармаваных групаў трэба перадаць у райвыканкам. Асноўнай мэтай дзейнасьці гэтых адборных людзей будзе адсочваньне палітычнага клімату ў працоўным асяродзьдзі свайго прадпрыемства. Найбольш актыўныя й незадаволеныя ладам сёньняшняга жыцьця ра*ботнікі павіньны брацца на заметку*. Аднак, *пакуль* невядома, што плануецца рабіць зь недабранадзейнымі таварышамі па працы. Хутчэй за ўсё. на гэты конт будзе дадатковае ўказаньне «зьверху».

Цікава вось яшчэ што. Паводле словаў чыноўнікаў з Крычаўскага выканаўчага камітэту, распараджэньне было дадзенае Магілеўскім аблвыканкамам. Такім чынам, становіцца зразумелым, што гэта не самадурства мясцовых уладаў, а агульнадзяржаўная палітыка.

## ПІКЕТ ДВОРНІКАЎ

На пачатку жніўня бабруйскія дворнікі, незадаволеныя благімі ўмовамі працы і нявыплатамі заробкаў, правялі пікет. Мясцовыя ўлады, відаць, самі спужаўшыся, пачалі запалохваць удзельнікаў акцыі. Ініцыятарка пікету Гульнара Ценеспаева атрымала папярэджаньне аб звальненьні, а на працягу апошняга часу на яе некалькі разоў складаліся пратаколы за нібыта парушэньне працоўнае дысцыпліны. Мітынг, які плянаваўся правесьці 29 жніўня, улады таксама забаранілі. Аднак гэтым пытаньне ня вырашылася.



**Крычаўцы на Сураскім рынку.**

## ХТО З ВАС РАТАВАЎ ГАБРЭЯЎ? ПРЫМАЙЦЕ МЭДАЛІ!

Магілеў наведаў ізраільскі амбасадар Марцін-Пэлед Флэкс. Мэтай ягонага візыту стаўся працяг міжнароднай праграмы, згодна зь якой ізраільскі ўрад шукае па Беларусі *людзей, якія ратавалі ў гады апошняй* сусьветнай вайны габрэяў ад фашыстоўскага палону і немінучай сьмерці. І нават калі такія людзі ўжо памерлі, мэдалі «Праведнік міру» атрымліваюць іхныя нашчадкі. Такім мэдалём была ўзнагароджаная 66-гадовая Надзея Курбанава, якая ў 1941 годзе з габрэйскай калёны, якую фашысты вялі ў гета, выцягнула нейкім чынам сваю сяброўку, адвяла дадому і працяглы час хавала яе. Названая сястра эміґравала ў Ізраіль, і праз некалькі дзясяткаў гадоў знайшла сваю выратавальніцу.

## НОВЫ ПАРТНЭР ДЗЯЦЕЙ

Зьмены ў каардынацыі дзейнасьці па Гарадзеншчыне нацыянальнага праекту «Глябальны рух у інтарэсах дзяцей» былі ўнесеныя на апошнім паседжаньні рэгіянальнага Каардынацыйна-інфармацыйнага Цэнтра праекта ў Гародні.

З-за адмовы ў рэгістрацыі Гарадзенскаму абласному Саюзу маладзёвых арганізацыяў «Рада - 23» з боку Ўпраўленьня юстыцыі Гарадзенскага аблвыканкаму ар*ганізацыяй-партнэрам па праекту* у Гарадзенскай вобласьці стала Гарадзенскае абласное грамадзкае аб'яднаньне маладых навукоўцаў «ВіТ».

Нагадаем, што кіраўніцтва праектам на нацыянальным узроўні ажыцьцяўляе «Беларуская Нацыянальная маладзёвая Рада», фінансавую падтрымку праекту ажыцьцяўляе Прадстаўніцтва Дзіцячага Фонда ААН (ЮНІСЭФ) у Рэспубліцы Беларусь.

### ГАРАДЗЕНЦЫ Ў МІЖНАРОДНЫМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ

Каля 30 чалавек, якія прадставілі Гарадзенскія клюбы ЮНЭСКА «Прамень», «Кронан» , «Лепрыкон», «Клюў», «Шакалядка», «Авенір» бралі ўдзел у Міжнародным Летнім унівэрсытэце клюбаў ЮНЭСКА, які на працягу 18 дзён праходзіў у Радашковічах.

Унівэрсытэт сабраў каля 260 юнакоў і дзяўчат, якія працуюць у клюбах ЮНЭСКА ў Беларусі, Румыніі, Латвіі, Якуціі, Украіне. Адукацыйны Форум прадугледжваў правядзеньне адукацыйных сэкцый, круглых сталоў, прэсавых канфэрэнцый, культурных і спартовных акцый. Лепшыя са студэнтаў па выніках унівэрсытэту атрымалі сэртыфікаты.

### КОЖНЫ ЗАСТАЎСЯ ПРЫ СВАІМ МЕРКАВАНЬНІ

Старшыня Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЭ ў Менску Ханс-Георг Вік сустракаўся ў Гародні зь першым намесьнікам старшыні аблвыканкаму Уладзімерам Саўчанкам і старшынёй гарадзкога выканаўчага камітэта Анатолем Пашкевічам. Дыплямата суправаджалі ў паездцы адказны работнік місіі Мішэль Рывальe й вядомы беларускі палітык Мечыслаў Грыб.

Кіраўніцтва абласной і гарадзкой «вэртыкалі» запэўніла гасьцей, што прыкладзе ўсе намаганьні, каб маючыя адбыцца выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу адпавядалі патрабаваньням Выбарчага кодэксу й міжнародным нормам.

Зусім па-іншаму ставяцца да выбарчага марафону, які пачаўся, прадстаўнікі рэгіянальных дэмакратычных палітычных і грамадзкіх арганізацыяў, аб'яднаных у сваёй большасьці ў Каардынацыйным камітэце «Гарадзенская ініцыятыва». Прыводзіліся факты, што ў працоўных калектывах сьпешна й негалосна. шляхам збору подпісаў, вылучаюцца людзі ў склад выбарчых камісій. За ўсім гэтым стаіць выканаўчая ўлада. Ужо цяпер зразумела, што прадстаўнікі апазыцыйных сілаў у гэтыя сьпісы не трапяць.

Неадназначна паставіліся прысутныя да магчымасьці ўдзелу ў назіраньні за выбарамі. Сапраўды, нядаўні Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі прыняў адназначнае рашэньне: у выбарах ня ўдзельнічаць, але не ў назіраньні, такі дакумант не прымаўся, падкрэсліў Мечыслаў Грыб. Ханс-Георг Вік, адказваючы на пытаньне, прааналізаваў магчымую рэакцыю Захаду на наступныя варыянты: беларуская апазыцыя цалкам не ўдзельнічае ў выбарах і назіраньні, удзельнічае толькі ў назіраньні, змагаецца пры актыўным назіраньні за дэпутацкія мандаты. Ад палітычнай мудрасьці апазыцыйных беларускіх палітыкаў залежыць рэальны суверэнітэт Беларусі, лічыць дыплямат.

Як паведаміў старшыня Каардынацыйнага камітэта «Гарадзенская ініцыятыва», сябра Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня Сямён Домаш, рашэньне па ўдзелу ў назіраньні будзе прынята пазьней.

### СВАЕ ЛЮДЗІ Ў СВАІХ КАМІСІЯХ

Згодна з пастановай Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзеньні рэспубліканскіх рэфэрэндумаў у Гарадзенскай вобласьці па прадстаўніцтву аблвыканкамаў утворана 13 выбарчых акругаў.

Рашэньнем абласнога Савету дэпутатаў і аблвыканкаму ўтвораны акруговыя выбарчыя камісіі па выбарах дэпутатаў так званай палаты прадстаўнікоў нацыянальнага сходу Беларусі 2-га скліканьня. Кожная камісія мае ў сваім складзе 13 чалавек. Гэта канечная колькасьць, прадугледжаная Выбарчым кодэксам.

Найбольшую актыўнасьць праявілі працоўныя калектывы. Пэўная колькасьць членаў камісій вылучана шляхам збору подпісаў. Пашчыравала веэтэранская арганізацыя, мае шырокае прадстаўніцтва амаль у кожнай акруговай выбарчай камісіі. Не ўпусьцілі свайго прэзідыюм абласнога Савету і абласны выканаўчы камітэт. Абсалютны рэкорд належыць юным «патрыётам» з БПСМ: іх вылучэнцы ў кожнай камісіі.

З палітычных партый у склад камісіяў уключаны толькі прадстаўнікі КПБ і ПКБ — адпаведна восем і тры. У камісіях ёсьць па аднаму прадстаўніку і экзатычных грамадзкіх аб'яднаньняў, напрыклад, «Беларускага саюзу вэтэранаў вайны ў Аўганістане», «Жаночай лібэральнай асацыяцыі».

Дэмакратычныя палітычныя партыі і грамадзкія арганізацыі выконваюць рашэньне 4-га Кангрэсу дэмакратычных сілаў Беларусі (ліпень 2000 г.) ня ўдзельнічаць у выбарах, пакуль рэжым не выканае вядомых патрабаваньняў, сфармуляваных АБСЭ і іншымі ўплывовымі эўрапейскімі структурамі.

### ПРЫВАТЫЗАВАЛІ НАВАТ ГЕРБ

Гарадзенскае абласное грамадзкае аб'яднаньне «Ратуша» зьвярнулася са спазыскам у абласны гаспадарчы суд. У якасьці адказчыка названы гарвыканам. Сваім рашэньнем выканаўчы камітэт забараніў няўрадавай структуры выкарыстоўваць у сваёй эмблеме элемэнт выявы гарадзкога гербу - аленя Сьвятога Губэрта.

Гарадзкую «вертыкаль» падтрымалі аддзел па архівах і справаводзтву аблвыканкаму, адпаведны рэспубліканскі камітэт і Дзяржаўная геральдычная служба. На баку «Ратушы» выступіў ганаровы сябра Усерасейскага, сябра Польскага й Украінскага геральдычных таварыстваў Анатоль Цітоў. Вучоны лічыць, што ў эмблеме грамадзкага аб'яднаньня выкарыстоўваецца інтэрнацыянальны геральдычны элемэнт - алень, які адрозьніваецца ад гарадзкога гербу ўзору 1990 года. Алень Сьв. Губэрта прызнаны патронам таксама шэрагу іншых гарадоў Эўропы - Францыі, Бэльгіі, Гішпаніі, Італіі. Варыянты герба могуць мець незьлічоную колькасьць. Тым больш, што артыкулы 8-ы і 21-ы Закона Беларусі «Аб аўтарскім праве й сумежных правох» сьведчаць, што аб'ектамі аўтарскага права не зьяўляюцца дзяржаўныя сымбалі й знакі: сьцяг, гімн, герб, ордэны і г.д. Яны перайшлі ў грамадзкі набытак, могуць свабодна выкарыстоўвацца фізічнай ці юрыдычнай асобай.

Наша даведка. У 1540 годзе ў якасьці геральдычнага сымбалю Гародні прымаецца алень Сьв. Губэрта - алень з крыжам між рагоў, які скача праз агароджу як знак свабодалюбства. 23 ліпеня 1795 года Указам імпэратара Аляксандра І-га зацьвярджаецца герб Літоўска-Гарадзенскай губерніі: у верхняй частцы шчыта зьмешчана Пагоня, у ніжняй - зубар. Пасьля 1848 года застаўся толькі зубар. 15 чэрвеня 1988 года гарадзкія ўлады зацьвердзілі новы герб з выяваю аленя Сьв. Губэрта, але... без крыжа, затое зь пяціканцовай зоркаю у верхнім полі на краі шчыту. Гэтая недарэчнасьць была выпраўлена гарсаветам 1-га лістапада 1990 года. Алень Сьв. Губэрта па праву вярнуўся ў родны горад.

### ЯШЧЭ МАЛАДЫЯ, А ЎЖО КАНСЭРВАТАРЫ

Група моладзі Гародні абвясьціла аб стварэньні клюбу маладых кансэрватараў. Адзін з кіраўнікоў арганізацыі, выпускнік Гарадзенскага дзяржунівэрсытэту, які пажадаў пакуль што не называць публічна сваё імя, адзначыў, што сябрамі элітарнага клюбу зьяўляюцца маладыя людзі, якія падзяляюць ідэі як клясычнага, так і нэакансэрватызму. Канчатковай мэтай ініцыятарам бачыцца стварэньне значнай праслойкі маладых палітыкаў у дэмакратычным грамадзкім руху краіны. Далейшае развіцьцё Беларусі яны зьвязваюць з напрацоўкамі кансэрватызму, што праверaныя часам і гісторыяй. Прыкладам гэтага зьяўляюцца краіны, дзе сацыяльна-эканамічны й палітычны лад доўгі час вызначалі й вызначаюць ўрады кансэрватыўнага кірунку. Найперш гэта Вялікабрытанія, Германія, ЗША, Бельгія і інш.

Ёсьць і больш рэзкае вызначэньне неабходнасьці клюба кансэрватараў. Моладзь не задумваецца пра сваю палітычную будучыню, змагаецца за незалежнасьць Беларусі на вуліцах, «затое ёсьць шмат падлюгаў, якія толькі і чакаюць, каб скарыстацца плёнам гэтага змаганьня». Без выхаваньня ўласнай эліты нельга зьмяніць такое становішча.

На парадку дня стаіць пытаньне аб паглыбленьні узаемадзеяньняў ў гэтым кірунку з Маладым Фронтам, які з траўня 1996 года стаў сябрам Маладых эўрапейскіх кансэрватараў, а таксама з аналягічнымі маладзёвымі структурамі суседняй Польшчы.

### ЖЫЛІБЕР ТАКСАМА СУПРАЦЬ НАРКОТЫКАЎ

Чатыры гадзіны 30 ліпеня доўжылася акцыя «Моладзь супраць наркотыкаў» у гарадзкім парку культуры і адпачынку імя Жылібера. Нават дождж не перашкодзіў амаль двум тысячам Гарадзенцаў адгукнуцца на запрашэньне абласнога аддзяленьня грамадзкага моладзёвага аб'яднаньня «Грамадзянскі форум» пры падтрымцы фонду Counterpart Alliance for Partnership.

Як паведаміў адказны за арганізацыю канцэрту, старшыня праўленьня грамадзкага аб»яднаньня «Таварыства абароны правоў спажыўцоў Гародні» юрыст Аляксей Шульга, наш абласны цэнтар стаў трэцім горадам пасьля Гомля й Магілева, дзе былі праведзены аналягічныя акцыі. Гарвыканкам даў дазвол на правядзеньне канцэрту. Работнікі аўтапарку й тралейбуснага дэпо бясплатна разьмесьцілі ў салёнах транспарту запрашэньні на канцэрт. Супрацоўнікі гарадзкога наркадыспансэру й абласнога цэнтру прафіляктыкі СНІДу выступілі з кароткімі паведамленьнямі аб наступствах ужываньня наркотыкаў, гаротным лёсе хворых, распаўсюджаньні небясьпечнай для здароўя чалавека залежнасьці.

У канцэрце ўдзельнічалі рок-ансамблі з Гародні, Берасьця, Менску, Барысава, Лепеля й Бярозы.

### ВЫВУЧЫЛІ І НАПІСАЛІ РАПАРТ

Праваабарончы цэнтар Гарадзенскага абласнога грамадзкага аб'яднаньня «Ратуша» вывучыў цяперашні стан выкананьня заканадаўства аб нацыянальных меншасьцях, канстытуцыйных правах навучаньня дзяцей на роднай мове ў вобласьці. Вынікі маніторынгу адлюстраваны ў адпаведным рапарце.

Напрыклад, у 1999/2000 навучальным годзе ў першых клясах Гародні беларускую й польскую мовы вывучалі 0,53 працэнта дзяцей, расейскую - 98,9 працэнты. Калі ў 1990/1991 годзе працэнт вучняў першых клясаў зь беларускай мовай навучаньня дасягаў 70, то ўжо ў 1995/1996 гадах зьменшыўся да 20 працэнтаў і выйшаў на цьвёрды нуль ў 1998/1999 гадах. У бягучым годзе сытуацыя не палепшылася.

Гэта першая спроба ў рэспубліцы паказаць паводле аналізу статыстычных дадзеных. як выконвае дзяржава свае абавязальніцтвы перад нацыянальнымі меншасьцямі ў іх праве вучыцца на мове свайго народа. Склаў рапарт магістар юрыдычных навукаў Ягелонскага ўнівэрсытэту гарадзенец Фелікс Гавін, які таксама спасьцігаў веды на практычных курсах знакамітай Варшаўскай Школы правоў чалавека.

Рапарт накіраваны зацікаўленым установам як у Беларусі, так і за яе межамі. Дакумант падрыхтаваны на беларускай, ангельскай, польскай і расейскай мовах.

### СЬВЯТКАВАЛІ ЎДЗЕНЬ, СЬВЯТКАВАЛІ Й НОЧЧУ

Каля дзесяці сьцягоў лунала над самымі высокімі будынкамі Гародні раніцай 28 ліпеня. Такім чынам мясцовыя патрыёты ўначы нагадалі гараджанам пра дзесяцігодзьдзе аднаўленьня Незалежнасьці Беларусі. Самае вялікае бел-чырвона-белае палотнішча было замацавана на расьцяжках паміж шматпавярховымі дамамі па вуліцы Ўрублеўскага. Толькі каля 10-ці гадзінаў міліцыянтам з дамапогай пажарных удалося зьліквідаваць «крамольныя» сымбалі незалежнасьці з вуліцаў горада. 27 ліпеня ў Гародні адбыліся два пікеты, наладжаныя гарадзкой арганізацыя БНФ «Адраджэньне», да якіх далучыліся сябры БСДП (НГ) і БСДГ. Пікеты, прымеркаваныя да дня Незалежнасьці, адбыліся таксама ў Воранаве й Ваўкавыску.

### НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ ЁСЬЦЬ І БУДЗЕ!

Такім быў лейтматыў урачыстага сходу грамадзкасьці Гародні.

Унясеньнем нацыянальнага бел-чырвона-белага сьцяга, выкананьнем Гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» Беларускай Народнай Рэспублікі пачаўся ўрачысты сход, прысьвечаны дзесяцігодзьдзю аднаўленьня Незалежнасьці краіны. Падрыхтавалі і правялі вечарыну дэмакратычныя арганізацыі Гародні, якія ўваходзяць у склад Каардынацыйнага камітэту «Гарадзенская ініцыятыва». У прэзідыюм былі запрошаныя вядомыя ў вобласьці асобы, якія шмат зрабілі для аднаўленьня сувэрэнітэту рэспублікі. Усяго ў мерапрыемстве ўдзельнічала каля 500 чалавек.

Сябра Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету Беларусі, старшыня Каардынацыйнага камітэту «Гарадзенская ініцыятыва» Сямён Домаш у сваім дакладзе прааналізаваў пакручасты шлях краіны да Незалежнасьці, узгадаў імёны патрыётаў даўніх і блізкіх часоў, асэнсаваў гістарычныя падзеі, якія мелі прамы ўплыў на станаўленьне дзяржаўнасьці Беларусі.

Асабліва была падкрэслена, што цяпер краіне, як ніколі пагражае страта сувэрэнітэту. Да гэтага вядзе палітыка пануючага рэжыму, які збанкрутаваў і палітычна, і эканамічна, раскалоў нацыю, зрабіў спробу зьнішчыць нацыянальныя здабыткі - мову, сымбалі, сьвяты.

Сямён Домаш выказаў сваё бачаньне захадаў, якія трэба зрабіць дэмакратычным сілам краіны, каб вярнуць Беларусь у эўрапейскі цывілізаваны сьвет, перамагчы галечу й сацыяльна-эканамічны заняпад, стварыць умовы для годнага жыцьця кожнага грамадзяніна рэспублікі.

Рэдактар беларускамоўнай газэты «Пагоня», дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Мікола Маркевіч прыгадаў, як вышэйшы заканадаўчы орган краіны прымаў Дэклярацыю «Аб дзяржаўным сувэрэнітэце». Дзень 27 ліпеня 1990 года заняў пачэснае месца ў найноўшай гісторыі краіны.

Лідары рэгіянальных дэмкратычных партый ацанілі здабыткі й страты дэмсілаў за апошнія дзесяць гадоў. Старшыня гарадзкой арганізацыі БНФ «Адраджэньне» Сяргей Мальчык адзначыў, што гэта быў час станаўленьня новай беларускай нацыянальнай палітычнай эліты.

Сябра сойму Маладога Фронту Беларусі Сяргей Антусевіч, гаворачы пра моладзь, адзначыў, што цяперашнія 25-гадовыя юнакі і дзяўчаты пасьпелі глынуць паветра адноснай свабоды пачатку 90-х і цяпер ніколі гэтае пакаленьне ня збочыць са шляху сьвядомага змаганьня за лепшую долю кожнага беларуса.

Арганізатараў прыемна ўразіла шматлюднасьць мерапрыемства. Калі «вертыкаль» збірае на свае сьвяты па разнарадцы, пад строгім вокам новых партаргаў, дык ўдзельнікі ўрачыстага сходу сабраліся па закліку сэрца. Сярод прысутных было багата актывістаў дэмакратычнага руху мінулых гадоў, а таксама моладзі.

Падборку інфармацый падрыхтаваў Антон Лабовіч.

Гародня / Хроніка грамадзкага жыцьця Гарадзеншчыны / Грамадзкае аб'яднаньне «Цэнтар «Трэці сектар» / А/с 54, Гародня, 230009, тэл. (0-152) 96-74-78, e-mail: sektar@iname.com

ТРАДЫЦЫІ Й СУЧАСНАСЬЦЬ МЯСЦОВАГА САМАКІРАВАНЬНЯ

2 жніўня ў Гародні пайшоў круглы стол на тэму «Мясцовае самакіраваньне ў Беларусі - традыцыі і сучаснасьць. Досьвед іншых краінаў, пэрспэктывы рэфармаваньня.» Гэты круглы стол для прадстаўнікоў абласных грамадзкіх арганізацыяў ладзіла гарадзенская філія фонду Лява Сапегі пры дапамозе Беластоцкага Цэнтру грамадзкай адукацыі «Польшча — Беларусь». Вынікам круглага стала сталася распрацаваная рэгіянальная канцэпцыя па рэфармаваньню і ўсталяваньню мясцовага самакіраваньня.

БЕЛАРУСКІ СЬВЯТАР ЯН СПАСЮК: НОВЫ ВЯЛІКАПАКУТНІК?

28 ліпеня ў мястэчку Пагранічны Берастаўвіцкага раёну быў ажыцьцёўлены напад на сьвятара Беларускай Народнай Праваслаўнай Царквы імя сьвятой Эўфрасіньні Полацкай. Царква месьціцца ў вайсковым намёце, узьведзеным у агародзе адной з прыхажанак. Тры міліцыянты (прозьвішча аднаго зь іх Віктар Абуховіч) ўварваліся ў царкву у час набажэнства і запатрабавалі, каб айцец Ян Спасюк накіраваўся зь імі ў суд. Чакаць канца набажэнства міліцыянты не пажадалі ды напалі на сьвятара. Пры гэтым у бойку зь імі ўступілі вернікі. Уцякаючы ад міліцыянтаў, айцец Спасюк пасьпеў патэлефанаваць журналістам ды ў амбасаду ЗША. Але ж ад перасьледу сьвятару прыйшлося ўцячы ў Гародню. Там міліцыянты ўсё ж насьціглі сьвятара і забралі ў яго пашпарт, але журналісты газэты «Біржа інфармацыі» і іншых незалежных выданьняў абаранілі гнанага. У рэдакцыі газэты ён і атрымаў прытулак. Паводле словаў Яна Спасюка, ім ужо цікавіцца даўно, і ня толькі міліцыя. 10 ліпеня да яго наведваліся супрацоўнікі КГБ з Гародні, якія настойліва раілі яму не займацца справай адраджэньня Беларускай народнай праваслаўнай царквы, а перайсьці на службу ў любы прыход Расейскай праваслаўнае царквы. На адмову супрацоўнікі спэцслужбаў пачалі шантажаваць сп. Спасюка тым, што надрукуюць дасье, якое вядзецца на яго з 1986 году (хаця ніякае дасье ня зможа падарваць вялізны аўтарытэт Яна Спасюка). Рэальная пагроза існуе ня толькі самому сьвятару, але й ягонай сям'і - жонцы й тром дзеткам. 31 ліпеня сп. Спасюк усё-ж такі быў затрыманы. Суд, які адбыўся ў Берастаўвіцы на наступны дзень, цягнуўся ня больш за тры хвіліны. Айцец Спасюк арыштаваны на пяцёра сутак за непадпарадкаваньне міліцыі. Пачатак гэтай гісторыі трэба шукаць у мінулагадовых падзеях, калі Берастаўвіцкія ўлады адмовіліся рэгістраваць прыход Беларускай Народнай Праваслаўнай царквы ў Пагранічным, заявіўшы, што праваслаўная царква будзе толькі рускай.

***

Гісторыя са сьвятаром Беларускай народнай праваслаўнай царквы атрымлівае новы працяг. Айцец Ян Спасюк, які адседзеў 5 сутак адміністрацыйнага арышту, вырашыў балятавацца на восеньскіх парляманцкіх выбарах. Дзеля гэтага разам зь ім працуе адмыслова створаная ініцыятыўная група. У мінулую пятніцу ў вёсцы Паплаўцы Берастаўвіцкага раёну сябраў гэтай групы, якія зьбіралі подпісы за вылучэньне кандыдату, затрымала міліцыя. Іх даставілі ў Берастаўвіцкі аддзел унутраных справаў і пратрымалі да позьняй ночы, пакуль туды за падначаленымі не зьвярнуўся сам сьвятар. Ян Спасюк лічыць, што улады працягваюць аказваць на яго ціск, каб не дапусьціць атрыманьня сьвятаром дэпутацкага мандату. Акрамя гэтага ў айца Спасюка чарговы раз спрабуюць адабраць кватэру. Быццам бы бацюшка заняў кватэру гвалтам, ня маючы ордэру. На днях ён з гэтае нагоды атрымаў позву ў суд.




ЧАМУ НЕ РЭГІСТРУЮЦЬ? НЯ ХОЧУЦЬ...

Улады адмовіліся зарэгістраваць яшчэ дзьве гарадзенскія грамадзкія арганізацыі. Адмову ў рэгістрацыі атрымалі Рада маладзёвых арганізацыяў Гарадзеншчыны «Рада-23» і «Жаночы лад». Дакументы гэтых аб'яднаньняў знаходзіліся на разглядзе на працягу апошніх 6 месяцаў. Аднак ініцыятары стварэньня абодвух аб'яднаньняў маюць намер і надалей дамагацца афіцыйнай рэгістрацыі.

НЯСЬВІСКАЯ АКАДЭМІЯ

З 20 ліпеня ў Гародні распачала працу «Нясьвіская акадэмія». Дзейнасьць акадэміі, створанай шосьць гадоў таму ў Нясьвіжы сумесна польскімі і беларускімі навукоўцамі, зьвязаная з аховай ляндшафтаў. Першы курс адбываўся ў Нясьвіжы, адкуль і ўзялася назва. У Гародні падобнае мерапрыемства адбываецца ўпершыню. Курс лекцый чытаюць навукоўцы з Польшчы й Беларусі для архітэктараў зь Літвы, Львова і Гародні. Гэтым разам акадэмія прысьвяціла сваю цікавасьць Аўгустоўскаму каналу, што праходзіць па Гарадзеншчыне, ягонай ахове, турыстычнаму асвойваньню й іншым пытаньням.

ХРЫСЬЦІЯНСКІ МУЗЫЧНЫ ФЭСТЫВАЛЬ

Сапраўднай падзеяй для Ліды стаўся хрысьціянскі музычны фэстываль, які ладзяць на гэтым тыдні некалькі пратэстанцкіх цэркваў. У мінулыя выходныя група маладых хрысьціянаў зь мясцовых фарнага касьцёлу і пяцідзесятніцкай царквы «Дабрадаць» праводзіла музычную акцыю для нефармальнай моладзі гораду. На працягу сямі наступных дзён царква «Новае жыцьцё» ставіць намёт на паўтысячы чалавек у мікраёне «Слабада». Плянуецца, што перад жыхарамі гораду выступяць гурты «Джэм», «Супольнасьць», шматлікія барды. Для розных узроставых групаў была прапанаваная разнастайная праграма: лялечны тэатар, гульні, дыскатэкі, сустрэчы «Каму за 50». Адметна, што падчас фэсту будзе праводзіцца спэцыяльная праграма «Шлях да свабоды» рэабілітацыйнага цэнтру «Крыніца», супрацоўнікі якога распавядуць, як магчыма вызваліцца ад алькагольнай і наркатычнай залежнасьці.

ПАМЯЦЬ

На Берасьцейшчыну прыехала дэлегацыя нямецкай моладзі з арганізацыі «Моладзевае кола». Мэтай гэтага візыту было наведаць мясьціны, зьвязаныя з другой сусьветнай вайной, каб захаваць памяць пра злачынствы мінулага. Гэткім чынам моладзь змагаецца з праявамі фашызму ў сучасным нямецкім грамадзтве. Усе маладыя людзі паходзяць з гораду Вупэрталь, дзе быў узьведзены першы канцэнтрацыйны лягер.

СТЫХІЯ НА ЗАХОДНІМ ПАЛЕСЬСІ

У выніку навальніцаў, якія прайшлі ўначы з 19 па 20 жніўня і ўдзень у нядзелю, у Берасьцейскай вобласьці загінулі 2 чалавекі, разбурана некалькі будынкаў калгасных фермаў, пад якімі былі задушаныя некалькі дзесяткаў цялятаў. У некаторых вёсках ветрам зьнесла дахі з дамоў. У выніку дзейнасьці стыхіі часова без электраэнэргіі засталіся 37 населеных пунктаў, былі адключаныя 93 падстанцыі. Найбольш пацярпелым апынулася Заходняе Палесьсе: Ганцавіцкі, Кобрыньскі, Жабінкаўскі, Пінскі, Іванаўскі раёны.



ЯК У ВІЦЕБСКУ ПЕРАШКАДЖАЛІ ВІКУ

27 ліпеня Віцебск наведаў кіраўнік Кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЭ па Беларусі Ханс-Георг Вік. У першай палове дня ён меў сустрэчу зь мясцовымі ўладамі.

Ён сустрэўся таксама з прадстаўнікамі палітычных партыяў і недзяржаўных арганізацыяў. Прычым запрошаны быў досыць шырокі спэктар: ад камуністаў да БНФ.

Трэба адзначыць, што ўлады рабілі ўсё магчымае, каб гэтая сустрэча не адбылася. Арганізатары зьвярталіся па чарзе ў Культурна-дзелавы Цэнтар ААТ «КІМ», дырэкцыю гарадзкога цэнтра культуры, арт-цэнтар М.Шагала па арэнду памяшканьня для сустрэчы. Ва ўсіх месцах чакала адмова. Тым ня менш, сустрэча адбылася. Акрамя спадара Віка на ёй прысутнічаў былы спікер ВС 12 скліканьня, дэпутат ВС 13 скліканьня М. Грыб.

Асноўная размова на сустрэчы ішла пра маючыя адбыцца ўвосень гэтага года парляманцкія выбары. Спадар Вік азнаёміўся з пазыцыяй віцебскіх дэмакратаў (камуністы адмаўчаліся) і са структурай і спэктрам трэцяга сэктару Віцебшчыны.

ЧАМУ Ў ВІЦЕБСКУ НЕ СЬВЯТКАВАЛІ ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Грамадзяне горада Віцебску дзеля падрыхтоўкі сьвяткаваньня найвялікшага для кожнага беларуса сьвята - Дня Незалежнасьці стварылі аргкамітэт. Аргкамітэт распрацаваў адмысловы сцэнар сьвяткаваньня, галоўную частку якога складалі ўрачысты сход і сьвяточны канцэрт, прысьвечаныя 10-м угодкам Дэкларацыі «Аб дзяржаўным сувэрэнітэце БССР». Былі знойдзеныя фундатары, якія ахвяравалі грошы на арэнду памяшканьня, запрошаныя артысты для ўдзелу ў сьвяточным канцэрце. Былі падрыхтаваныя віншаваньні й запрашэньні на 600 чалавек.

Аргкамітэт у пошуках памяшканьня зьвяртаўся да кіраўніцтва шматлікіх дзяржустановаў: тэатра імя Я. Коласа, раённага Дома культуры, палаца культуры Таварыства глухіх ды іншых.

Улічваючы гаротны стан установаў культуры, іх кіраўніцтва было ня супраць арэнды памяшканьня, што дазваляла папоўніць небагаты бюджэт. Аднак віцебскія ўлады, якіх не цікавіць эканамічны стан установаў культуры, забаранілі іх кіраўніцтву даваць памяшканьні для сьвяточнай імпрэзы, зьвязанай зь беларускім сьвятам. У выніку такіх дзеяньняў віцебскіх чыноўнікаў, што прысвоілі сабе манапольнае права распараджацца т.з. дзяржмаёмасьцю, а значыць агульнай для ўсіх, сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці было сарвана.

ЧУЖЫЯ СЫМБАЛІ

На чарговую прыкрую зьяву нашага жыцьця зьвярнула ўвагу чытачоў інфармацыйнае выданьне «Дзяньніца» Наваполацкага ГА "Ўсяслаў Чарадзей». Вось ужо трэці год на фасадзе Наваполацкай ДЮСШ в/а «Нафтан» вісіць вялізная эмблема Алімпійскага Камітэту Рэсейскай Фэдэрацыі. Пазіраючы на сьцяг суседняй дзяржавы, які ўпрыгожвае эмблему, кожны раз ловіш сябе на думцы: ці магчыма такое ў Літве, Латвіі ці ва Ўкраіне, і ці можа сабе дазволіць дырэктар якой-небудзі расейскай спартовай школы вывесіць на фасадзе эмблему суседняй дзяржавы. Пытаньні, вядома ж, рытарычныя. У нас жа, як бачым, можна пазначаць фасады спартовых школаў любымі сымбалямі, апроч беларускіх.

Уявім сабе, што дырэктар вышэйпамянёнай установы прымацаваў над уваходам эмблему Нацыянальнага Алімпійскага камітэту Беларусі у яе першапачатковым выглядзе: з выявай бел-чырвона-белага сьцяга. Разглядаючы такую падзею ў яе разьвіцьці, можна апрыёры сьцьвярджаць, што наступным днём у школу прыйдзе ўчастковы і здушаным голасам прамовіць: «Снимите!» Дый ня дзіва! Сьвяты для кожнага беларуса бел-чырвона-белы сьцяг знаходзіцца сёньня па-за законам: ён запэцканы, падзерты, запляваны і заменены сталінскай харугвай узору 1951 году. А там-сям і расейскім трыкалёрам, пад якім, дарэчы ска́заць, за часамі апошняй вайны змагалася так званая «Русская Освободительная Армия» генэрала Ўласава.

Вывешваньне такога сьцяга на фасадах наваполацкіх будынкаў - гэта нішто іншае, як заклік да канчатковай ліквідацыі Беларусі як самастойнай дзяржавы.

У «КРЭСАХ»

Вельмі цікавым для аматараў краязнаўства атрымаўся чарговы двайны нумар дадатка «Краязнаўца Паазер'я» да газеты NGOs Заходняй Віцебшчыны «Крэсы», які пабачыў свет у ліпені. Тэма нумару : «Камяні і дрэвы» - помнікі прыроды, якія знаходзяцца на тэрыторыі Глыбоцкага, Браслаўскага, Мёрскага і Пастаўскага раёнаў. Дарэчы, сябры гуртка «Нальшчаны»- вучні Лынтупскай і Палескай школ Пастаўскага раёну маркуюць правесьці некалькі экспэдыцыяў па выяўленьні новых культавых камянёў і даставаньне аднаго з «чортавых» камянёў, які лічыцца прапаўшым зь зямных нетраў.

ВІЦЕБСК - НІНБУРГ

Група моладзі зь віцебскіх НДА і палітычных партыяў наведала ў ліпені сяброўскі Віцебску горад у Нямеччыне Нінбург. Беларусы правялі сустрэчы зь незалежным прафсаюзам, маладымі сацыял-дэмакратамі, азнаёміліся з працай навучальнага цэнтру прафсаюзаў у горадзе Цэльле. Нямецкія партнэры атрымалі інфармацыю пра дзейнасьць НДА, палітычных партыяў ды прафсаюзаў у Беларусі.

«ЗАДЗЬВІНЬНЕ» - ТОЕ Ж, ШТО І «НАВІНКІ»

Зь верасьня Наваполацкая Супольнасьць «Усяслаў Чарадзей» аднаўляе выпуск бюлетэню «Канспэкт», што не выходзіў па некаторых прычынах вось ужо некалькі месяцаў. У плянах супрацоўнікаў цэнтру - пачаць выданьне і новага бюлетэню пад назвай «Задзьвіньне», моладзевага грамадзка - палітычнага выданьня кшталту «Навінак». Як кажуць стваральнікі бюлетэню, гэта будзе «незалежніцкае выданьне для Наваполацкіх ідыётаў», і ад газэты «Навінкі» яны «пазычылі» толькі ідэю. Абодва выданьня будуць распаўсюджвацца па ВНУ ды іншых навучальных установах Полаччыны.

НЯДЗЕЛЬНАЯ ШКОЛА «ЎСЯСЛАВА ЧАРАДЗЕЯ»

З пачатку восені ў Наваполацку пачне працаваць «Школка выходнага дня», арганізатарам якой зьяўляецца арганізацыя «Ўсяслаў Чарадзей». Усяго ў школцы будуць навучацца 60 дзяцей 12-16 гадоў. Навучаньне будзе праводзіцца ў шасьці групах па такім спэцыяльнасьцям, як гісторыя Беларусі, сусьветная гісторыя, беларуская мова і літаратура, ангельская мова, філязофія і культуралёгія. Заняткі будуць праводзіць выкладчыкі і студэнты Полацкага ўнівэрсытэту і праходзіць яны будуць у памяшканьні Наваполацкага цэнтру нацыянальнай культуры. ■




Навіны падрыхтаваныя з дапамогай Беларускай Асацыяцыяй Рэсурсавых Цэнтраў, Гарадзенскага Рэсурсавага Цэнтру «Ратуша», Крычаўскага Аб'яднання «Кантак-Цэнтар» і іншых крыніцаў інфармацыі.

# «ЧАЛАВЕК» нарадзіўся

**Нядаўна Беларускі Хэльсынскі Камітэт зладзіў прэсавую канфэрэнцыю, на якой прэзэнтаваў першы нумар праваабарончага бюлетэню «Чалавек».**

На жаль, пакуль што ён мае наклад толькі 299 паасобнікаў, але ў хуткім часе павінны быць зарэгістраваны як часопіс. Гэта ўжо пяты выпуск бюлетэню, які цяпер зьмяніў выгляд і абзавёўся каляровай вокладкай. Раней ён называўся «Аркуш», але, як паведаміла рэдактар Сьвятлана Курс, зарэгістраваць часопіс с такім назовам немагчыма: ўжо існуюць два бюлетэні з аналягічнымі назовамі. Аднак зьдзіўляе тое, што ў Беларусі няма аніводнага бюлетэню ці часапіса з назовам «Чалавек» (пра што гэта сьведчыць?)

У беларускага чытача ня вельмі шмат магчымасьцяў атрымаць інфармацыю з грунтоўным аналізам фактаў з незалежных крыніцаў. Часопіс «Чалавек» атрымлівае зьвесткі з 39 агенцтваў ХК па ўсім сьвеце (дарэчы, у першым нумары зьмешчаныя апошнія навіны). Менавіта таму было вырашана зрабіць яго больш інфармацыйна насычаным і міжнародным. Плянуеца, што наклад часопіса складзе 10000 паасобнікаў, а распаўсюджвацца ён будзе па падпісцы.

Галоўная мэта часопісу - даказаць і паказаць беларусам, якія заражаныя мітамі, што нават і ў аўтарытарнай краіне існуе магчымасьць адбудовы сваіх грамадзянскіх правоў. У гэтым пляне БХК валодае інфармацыяй, як гаворыцца, зь першых рук, бо толькі за апошняе паўгодзьдзе ў гармадзкія прыёмныя БХК зьвярнуліся па дапамогу больш за 600 чалавек. Нездарма канцэпцыяй часопісу стала «чалавечае вымярэньне», а тэмы кіруюцца вакол чалавека, яго сацыяльнага акружэньня, грамадсзкай экалёгіі.

**Галоўная мэта часапісу - даказаць і паказаць беларусам, якія заражаныя мітамі, што нават і ў аўтарытарнай краіне існуе магчымасьць адбудовы сваіх грамадзянскіх правоў.**




Першы нумар часопіса закранае актуальныя тэмы: незалежнасьць СМІ (інтэрвію зь Яраславам Беклямішавым), вялікі артыкул пра Віленскі міжнародны кангрэс «Ацэнка злачынстваў камунізму», пра вынікі якога на Беларусі амаль нічога няведама, матарыял пра распаленьне рэлігійнай варожасьці у дзяржаўных СМІ, і нават артыкул пра правы жывёлаў у Польшчы.

Па-за ўвагай часопіса не застануцца факты парушэньня грамадзянскіх правоў, гендэрныя пытаньні, дыскрымінацыя сэксуальных меншасьцяў, праблема разрастаньня фашызму на Беларусі, інфармацыя з гарачых кропак і тых месцаў, якія заўсёды застаюцца «за парканам» - турма, войска, прытулак (у першам нумары зьмешчаны матарыял пра жаночую калёнію ў Гомелі).

Кантакт: 220036, Менск,
вул. К. Лібкнехта, 68 - 1201
Тэл (017) 2224800
Тэл\факс 2224801

# «МАЛАДЗЁЖНЫ КУР'ЕР»

**Крычаўскія хлопцы на чале з рэдактарам Ігарам Бяляевым пры дапамозе Крычаўскага культурна-асьветніцкага грамадзкага аб'яднаньня «Кантакт-цэнтар» выдалі чарговы нумар «Маладзежнага кур'еру».**

Варта сказаць, што, нягледзячы на невялічкі памер і такі ж наклад выданьня, яно пасьпела набыць папулярнасьць у рэгіёне. І нездарма: у параўнаньні зь аналягічнымі па накірунку дзяржгазэтамі, «МК» гаворыць з моладзьдзю не на нейкай прыдуманай, а на самай натуральнай моладзёвай мове. Ён раіць, што рабіць, калі «дзядзька ў камуфляжцы» наведаў аблюбаваны тынэйджэрамі падвал, дапамагае, калі Яна страціла Яго, вядзе чытача «Ад «Мроі» да «NRM», вырашае праблему «хлопец-дзяўчына»... І проста дапамагае жыць.

Кантакт: Тел. (02241) 56662
E-mail: Kontakt-centr @ mogilev.unibel.by




Піт Паўлаў і Алезіс Дземідовіч: «Па вуліцы маёй..»

МІЖНАРОДНЫ МАЛАДЗЁВЫ ЧАСОПІС

# «THE COLLAGE»

**Міжнародны маладзёвы англямоўны часопіс «The Collage» выдаецца Міжнародным сакратарыятам Хэльсынскай Грамадзянскай Асамблеі (Чэская Рэспубліка, Прага) з 1996 г.**

Гэта штоквартальнае выданьне, разьлічанае на грамадзка актыўную эўрапейскую моладзь. Рэдакцыя часопісу складаецца з маладых журналістаў з усёй Эўропы і абіраецца штогод у Празе на адмысловым мэдыя-сэмінары.

Кожны нумар часопісу прысьвечаны асобнай праблеме. Летась на старонках выданьня абмяркоўваліся такія праблемы, як «Цыганы», «Наркотыкі», «Узаемаадносіны палоў». У наступным нумары «The Collage», які выйдзе ў сьвет напрыканцы верасьня, будуць разглядацца пытаньні з рэлігіі й культуры.

У 2001 г. галоўнымі тэмамі «The Collage» будуць:

- Узброеныя канфлікты
- Здароўе
- Эўрапейскі Саюз
- Нацыянальнае самавызначэньне

Акрамя цэнтральнай тэмы кожны нумар «The Collage» утрымлівае пастаянныя рубрыкі, якія зьмяшчаюць інфармацыю пра дзейнасьць разнастайных маладзёвых арганізацыяў Эўропы, магчымасьці ўдзелу ў міжнародных маладзёвых праграмах, а таксама шматлікія абвесткі, конкурсы, агляды Інтэрнэт-старонак, выданьняў ды стужак.

Сёньня вы маеце магчымасьць ня толькі падпісацца на часопіс «The Collage», але й стаць ягоным аўтарам. Па ўсіх пытаньнях зьвяртайцеся да Ірыны Віданавай (міжнародны каардынатар Выканаўчага Бюро Асамблеі няўрадавых арганізацыяў).

Тэлефон/факс: (172) 10-40-75
E-mail: ngo@user.unibel.by (topic «The Collage») ■



# Балтыйская Міжканфэсыйная Асацыяцыя
# Baltic Interfaith Association

### ХТО МЫ

Балтыйская (раней - Беларуская) Міжканфэсійная Асацыіцыя (БМА), першая на тээрыторыі былога СССР арганізацыя за міжрелігійны дыялёг, была заснаваная ў 1992 годзе. Мэта БМА - аб'яднаць прадстаўнікоў розных рэлігіяў для тога, каб супрацьстаяць фанатызму, расізму, ксэнафобіі, парушэньню свабоды сумленьня ды іншых фундамэнтальных правоў чалавека ў Беларусі.

БМА, зьяўляючыся няўрадавай грамадзкай арганізацыяй, пасьлядоўна выступае за ўмацаваньне ўзаемаразуменьня й узаемнай павагі паміж ўсімі рэлігіямі, нацыямі й культурамі праз дыялёг, асьветніцкую дзейнасьць і мірнае вырашэньне ўсіх канфліктаў. Барацьба з дыскрымінацыяй рэлігійных меншасьцяў, антысэмітызмам і злоўжываньнем рэлігійнымі пачуцьцямі дзеля нацыяналістычных альбо палітычных інтарэсаў, абарона правоў і свабодаў асобы зьяўляюцца асноўнымі прыярытэтамі ў дзейнасьці БМА.

### ЯК МЫ ПРАЦУЕМ

БМА працуе ў шчыльным кантакце з мноствам рэлігійных суполак і аб'яднаньняў, грамадзкіх арганізацыяў, адукацыйных, асьветніцкіх установаў і дзяржаўных структураў, рухамі за захаваньне правоў чалавека й сродкамі масавай інфармацыі ў Беларусі і за яе межамі; фармуе сэтку рэгіянальных падразьдзяленьняў у рэспубліцы і аказвае дапамогу ў разьвіцьці й умацаваньні міжрэлігійнага дыялёгу на ўсёй тэрыторыі былога СССР.

Нашыя прыхільнікі актыўна дзейнічаюць у шасьці буйнейшых гарадах краіны: Менску, Берасьце, Гародні, Віцебску, Магілеве, Гомлі. Пад нашым кіраўніцтвам пачатае стварэньне арганізацыяў, якія выступаюць за міжрэлігійны дыялёг, у Літве й Украіне.

У апошнія гады БМА ў супрацоўніцтве з ICCJ (Міжнародай радай хрысьціян і габрэяў), фондам Усход-Захад і IBB-Цэнтрам зарганізавана дзьве канфэрэнцыі маладых грамадзкіх лідараў з Усходняй Эўропы. Першая адбылася ў лістападзе 1995 года, пад дэвізам «Дыялёг супраць перадсудаў - роля маладых хрысьціянаў і габрэеў у духоўным адраджэньні посткамуністычных краінаў» і сабрала болей за 70 удзельнікаў з 14 краінаў. Другая сустрэча - «10 год пасьля Чарнобыля - экалягічная й духоўная этыка як агульная рэлігійная традыцыя», - адбылася ў траўні 1996, у ёй бралі ўдзел болей за 40 экалягічна думаючых вернікаў з усяго былога СССР, Цэнтральнай Эўропы і Нямеччыны. Наступная ўсходнеэўрапейская рэгіянальная канфэрэнцыя адбылася ў Менску ў ліпені 1997 года пад дэвізам «Дыялёг за дэмакратыю. Яна прысьвячалася пытаньням абмежаваньня рэлігійнае свабоды ды іншых фундамэнтальных правоў чалавека ў рэгіёне.

Напрыканцы сакавіка 1996 года кала 120 прадстаўнікоў праваслаўна, каталіцкай і пратэстанцкай цэркваў, якія звычайна як што не кантактуюць, паразумеліся паміж сабой на сэмінары лідараў мясцовых духоўных абшчынаў, зарганізаваным БМА ў цесным супрацоўніцтве зь Менскім гарадзкім саветам. Гэты сэмінар быў міжхрысьціянскім, але мы плянуем правесьці такі ж хрысьціяна-габрэйскі сэмінар на наступную вясну. БМА працуе й над тым, каб прыцягнуць грамадзскую ўвагу да распаўсюду й узмацненьня ўплыву, у першую чаргу на моладзь, таталітарных і псэўдарэлігійных сэктаў.

### ПУБЛІКАЦЫІ БМА

БМА публікуе ўласныя асьветніцкія матарыялы й перакладае ключавыя працы па пытаньнях міжканфэсійнага супрацоўніцтва з замежных моваў. Вы можате замовіць выданьні: «Хто такія габрэі і якая іх вера?» (раб. Ярэмія Розэн і Віда Барнэт), «Хатняе заданьне для хрысьціянаў» (Юджын Дж. Фішэр), «Хатняе заданьне для габрэяў» (Джанэт Стернфелд). «Сэнс дыялёгу й як яго весьці» (Дзін М.Келі і Бэрнард Олсан), «Міжрэлігійнае супрацоўніцтва: дасягненьні й пэрспэктывы» (а. Маркус Брэйбрук), «Габрэі, Вашая Вялікасьць!» (д-р Гаран Ларсан), ды інш.

### НАШАЕ МЕСЦА Ў СЬВЕЦЕ

В 1994 годзе БМА стала чальцом Сусьветнае рады хрысьціянаў і габрэяў(ICCJ), што яднае кала 30 нацыянальных арганізацыяў за міжрэлігійны дыялёг ва ўсім сьвеце.

Давід Гольдман, дырэктар-распараджальнік БМА, зьяўляецца чальцом Маладзёвай і Міжнароднай Радаў выканкаму ICCJ.

БМА таксама зьяўляецца чальцом Асацыяцыі Эўрапейскіх арганізацыяў супраць фашызму й нацыяналізму UNITED. Акром таго, Сусьветная Рада рэлігіяў сьвету (WCRP) супрацоўнічае з БМА як з асноўнай партнэрскай арганізацыяй у пытаньнях міжрэлігійнага супрацоўніцтва ў Беларусі. Зараз разглядаецца пытаньне аб уступленьні ў WCRP у якасьці нацыянальнага чальца. БМА цесна супрацоўнічае з Маскоўскім цэнтрам дасьледваньняў па пытаньнях правоў чалавека.

### ЧАЛЕЦТВА Ў БМА

Цяпер сябрамі БМА зьяўляюцца хрысьціяне розных канфэсіяў, юдэі, мусульмане й бахаі. Каб стаць чальцом БМА, не абавязкова быць грамадзянінам Беларусі - нашыя дзьверы адчыненыя для ўсіх, хто падзяляе нашыя спадзяваньні й гатовы спрыяць дасягненьню нашых мэтаў.

Кантакт:+375-17-2635796 (Тэлефон/Факс)
+375-29-6905206, +371-9508375, +7-902-6905206 (мабільныя)
info@bia-bma.org . www.bia-bma.org. Менск 220114, Беларусь, А/с 574


БЮЛЕТЭНЬ №5 ЖНІВЕНЬ 2000

# ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ – II

**BMAgroup рыхтуе правядзеньне ў верасьні другой сэрыі прэзэнтацыі кампакт-дыску «ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ: НОВАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА».**

Выступяць каманды, што не ўзялі ўдзелу ў першай частцы. Там жа будзе праведзены конкурс сярод пакупнікоў дыску й касэты, якія запоўняць лятэрэйныя купоны з ацэнкай групаў, што ўдзельнічаюць у праекце. Запаўняльнікі купону атрымаюць зьніжкі пры набыцьці квіткоў. Купляйце «ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ: НОВАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА»і дасылайце купоны на адрасу: 220085 Менск а/я 5, Віталю Супрановічу.

Беларуская музыка ў Internet:
http://BMA.home.by; http://NRM.home.by;
http://ULIS.home.by; http://www.KRIWI.com;
http://NA.home.by. ■

# ПАМЯЦЬ ВОРШЫ

**Культурна-асьветніцкі цэнтар імя Караткевіча 9-га верасьня 2000 г. праводзіць традыцыйны фэст, прысьвечаны ўгодкам славутай Аршанскай бітвы.**

Гасьцей чакаюць у Воршы а 15.00 на аўтобусным прыпынку «Чыгуначны вакзал» (ад'езд на Крапівінскае поле арганізаваны).

У праграме:
- Імша па палеглых героях Аршанскае бітвы.
- Рыцарскі турнір.
- Пэрфоманс Алеся Пушкіна.
- Сьпевы беларускіх бардаў.

Ад'езд у Воршу 10-га верасьня а 10.30.

Просьба паведаміць пра колькасьць гасьцей да 5 верасьня па тэлефонах:
8 (261) 5-25-40, 4-71-07. ■

ЗАПРАШАЕМ ВАС ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ
У АДУКАЦЫЙНАЙ ПРАГРАМЕ

# «Праца з моладзьдзю ў Нямеччыне: сацыяльны і пэдагагічны аспэкты»

**Адукацыйны цэнтар «ПОСТ» сумесна з нямецкай арганізацыяй Маладзёвы адукацыйны цэнтар Эмліххайм рэалізуюць сумесную праграму па тэме «Праца з моладзьдзю ў Нямеччыне: сацыяльны і пэдагагічны аспэкт», якая адбудзецца з 5 лістапада па 10 сьнежня 2000 года ў Нямеччыне.**

Удзельнікі праграмы будуць мець магчымасьць азнаёміцца з вопытам сацыяльнай і сацыяльна-пэдагагічнай працы з моладзьдзю ў Нямеччыне, параўнаць яго з тым, што адбываецца ў гэтай сфэры ў Беларусі, а таксама атрымаць уласны досьвед працы ў нямецкай арганізацыі.

Праграма складаецца з наступных частак:

ПЕРШЫ ТЫДЗЕНЬ - аналіз удзельнікамі праграмы свайго вопыту працы з моладзьзю, канкрэтызацыя чаканьняў ад практыкі (згаданая частка праграмы адбудзецца ў Цэнтры Эмліххайм);

ДРУГІ - ЧАЦЬВЁРТЫ ТЫДНІ - практыка ў пэўнай нямецкай арганізацыі (дзіцячы садок, маладзёвы цэнтар, вышэйшая народная школа (Volkshochschule), установы, што працуюць зь інвалідамі, падлеткамі групы рызыкі і г.д.). Плянуецца, што падчас практыкі кожны беларускі ўдзельнік будзе стажыравацца ў асобнай арганізацыі і пражываць у нямецкай сям'і;

АПОШНІ ТЫДЗЕНЬ - аналіз вопыту, які быў атрыманы падчас практыкі, падсумаваньне вынікаў праграмы (адбудзецца ў Цэнтры Эмліххайм).

Пасля заканчэньня праграмы плянуецца абагульніць атрыманы вопыт у выглядзе друкаванага выданьня, аўтарамі якога стануць самі ўдзельнікі праграмы.

Пры падрыхтоўцы да візіту ў Нямеччыну плянуецца правядзеньне некалькідзённага арыентацыйнага сэмінару, на якім адбудзецца больш падрабязнае знаёмства з праграмай, а таксама будуць узгодненыя яе элемэнты.

Унёсак удзельніка складае 140 у.а. (дарога да Бэрліну і адтуль, арганізацыя арыентацыйнага сэмінару, арганізацыйныя выдаткі). Арганізатары фінансуюць побыт, а таксама аплочваюць сутачныя (з разьліку 5 DM у суткі).

Для ўдзелу ў праграме запрашаюцца маладыя сацыяльныя работнікі й пэдагогі (узрост 18-26 гг.), якія: маюць досьвед пэдагагічнай працы з моладзьдзю; валодаюць нямецкай, альбо ангельскай моваю; вызначылі для сябе магчымае месца практыкі з тых, што прапануюцца ў анкеце.

На жаль, колькасьць месцаў лімітавана. Калі заявак будзе пададзена шмат, адбудзецца папярэдні адбор кандыдытаў. Калі Вы жадаеце ўзяць удзел у праграме, калі ласка, падрабязна запоўніце анкету (яе можна атрымаць у цэнтры «ПОСТ») і дашліце яе да 25 верасьня 2000 г. на адрас Адукацыйнага цэнтра «ПОСТ». Разгляд анкетаў адбудзецца да 31 верасьня 2000 г. і ўсім падаўшым заяўкі будзе паведамлена аб выніках да 10 кастрычніка 2000 г.

Пры распрацоўцы праграмы будуць улічвацца пажаданьні будучых удзельнікаў, і таму канчатковая праграма будзе выпрацавана пазней.

*Анкеты, калі ласка, высылайце на адрас:*
220028, г.Мінск, а\с 63, тэл.\факс 286-03-66
E-mail: center_post@mail.ru
Па пытаньнях удзелу і удакладненьня зьвяртацца ў Адукацыйны цэнтар «ПОСТ».
Каардынатары праграмы: Дзьмітры Карпіевіч, УУладзіслаў Вялічка. ■



ЭЎРАПЕЙСКАЯ ІНІЦЫЯТЫВА ЗА ДЭМАКРАТЫЮ Й ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ПРАГРАМА МІКРА-ПРАЕКТАЎ ДЛЯ КРАІНАЎ ЦЭНТРАЛЬНАЙ ДЫ ЎСХОДНЯЙ ЭЎРОПЫ, НОВЫХ НЕЗАЛЕЖНЫХ ДЗЯРЖАЎ І МАНГОЛІІ

**NOTA BENE**

Шаноўныя калегі!
Калі ласка, зьвярніце асаблівую ўвагу на праграму міні-праектаў для краінаў Цэнтральнай ды Ўсходняй Эўропы. У конкурсе могуць браць удзел выключна **зарэгістраваныя грамадзкія арганізацыі**.
**Апошні тэрмін падачы заявак – 9 кастрычніка 2000 г.**
Форму заяўкі, а таксама рэкамэндацыі па яе напісаньні можна атрымаць у Выканаўчым Бюро Асамблеі.
**ЗЬВЯРТАЙЦЕСЯ ПА ТЭЛЕФОНЕ: 210 40 75**



**МЭТА ПРАГРАМЫ: падтрымка грамадзкіх арганізацыяў, якія, паводле сваіх мэтаў і практычнай дзейнасьці, у стане зрабіць унёсак у разьвіцьцё плюралістычнага дэмакратычнага грамадзтва.**

<u>Накірункі дзейнасьці</u>:

1. Супрадзеяньне дыскрымінацыі;
2. Правы дзяцей і моладзі;
3. Грамадзянская адукацыя;
4. Вырашэньне канфліктаў;
5. Правы спажыўцоў;
6. Падтрымка выбарнага працэсу;
7. Прапаганда правоў чалавека (у тым ліку заканадаўчая рэформа);
8. Інфармацыйныя цэнтры (у тым ліку аказаньне прававой дапамогі);
9. Мясцовае самакіраваньне (у тым ліку удзел грамадзянаў у разьвіцьці мясцовай дэмакратыі);
10. Сродкі масавай інфармацыі (у тым ліку свабода прэсы й навучаньне ў галіне СМІ);
11. Разьвіцьцё недзяржаўных арганізацыяў і іх навучаньне;
12. Практыка й арганізацыя парлямантарызму;
13. Рэформа пэнітэнцыярнай сыстэмы (у тым ліку правы вязьняў);
14. Разьвіцьцё прафэсійных асацыяцыяў;
15. Свабода веравызнаньня;
16. Правы бежанцаў і мігрантаў;
17. Прапаганда вяршынства закону;
18. Сілавыя структуры (у тым ліку грамадзкі кантроль за дзеяньнямі міліцыі і ўзброеных сілаў);
19. Рэформа і разьвіцьцё прафэсійных саюзаў;
20. Правы жанчын (у тым ліку роўнасьць правоў).

<u>Удзельнікі</u>:
Грамадзкія арганізацыі, зарэгістраваныя ў Беларусі; іх кіраўнікамі павінны быць грамадзяне Рэспублікі Беларусь альбо грамадзяне РФ, якія пастаянна пражываюць у Беларусі.

<u>Мова заяўкі</u>:
Заяўкі падаюцца на ангельскай, беларускай ці расейскай мовах.

<u>Памер фінансаваньня</u>:
выдзяляюцца гранты ў памеры ад 3,000 Эўра да 50,000 Эўра. Сума гранту ня можа перавышаць 90% ад агульных выдаткаў на рэалізацыю праекту. Унёсак арганізацый, што падаюць заяўкі, ня можа быць меншым за 10% ад агульнага кошту праекту і павінны быць у грашовым выражэньні.

<u>Напрыклад</u>, праект у сему 50,000 Эўра:
Грант Эўрапейскага Саюзу:
максымальная сума ў 45,000 Эўра (90%)
Унёсак арганізацыі, што падае заяўку:
мінімальная сума ў 5,000 Эўра ў грашовым выражэньні (10%)

<u>Тэрмін падачы заявак</u>:
Апошні тэрмін падачы заявак для ўдзелу ў конкурсе праектных прапановаў - 9 кастрычніка 2000 г.

Вынікі разгляду заявак будуць абвешчаны напрацягу кастрычніка-лістапада 2000 г. Дамовы аб сумесным фінансаваньні павінны быць заключаныя ў сьнежні 2000 г.

Запоўненыя заяўкі павінны быць прадстаўленыя ў надрукаваным выглядзе не пазьней за 9 кастрычніка 2000 г. у:

Эўрапейскую Ініцыятыву за Дэмакратыю й Правы Чалавека
Праграма Мікра-Грантаў
Аддзяленьне Прадстаўніцтва Эўрапейскай Камісіі ў Беларусі «TACIS-офіс»
220030 Менск
вул. Інтэрнацыянальная 21, 2-гі паверх
Тэлефон для даведак: (017) 206 66 13
e-mail: tacis_eudel@infonet.by
(для атрыманьня дадатковай інфармацыі)

Форму заяўкі й рэкамэндацыі па яе напісаньні можна атрымаць ў Выканаўчым бюро Асамблеі няўрадавых арганізацыяў. ■

# Community Connections - стажыроўка ў ЗША

Бюро па Адукацыі й Культурных Сувязях Дзяржаўнага Дэпартамэнту ЗША супольна з Адзьдзелам інфармацыі, Адукацыі й Культуры Амбасады ЗША (PAS) абвяшчае пра пачатак новай праграмы міжнароднага абмену спэцыялістамі пад назовам

COMMUNITY CONNECTIONS.

Удзельнікі праграмы атрымаюць магчымасьць прайсьці стажыроўку на працягу 3-5 тыдняў у амэрыканскіх кампаніях і арганізацыях. Усе выдаткі па правядзеньні праграмы нясе амэрыканскі бок. Адбор удзельнікаў будзе праводзіцца ў шасьці гарадох рэспублікі: Берасьці, Гомлі, Гародні, Менску, Віцебску й Магілеве.

**Праграма мае два накірункі**:

**Business** - ў ёй могуць узяць удзел уладальнікі альбо кіраўнікі прыватных кампаніяў сярэдняга й малога бізнэсу, іхныя вядучыя спэцыялісты, мэнэджэры верхняга й сярэдняга зьвяна, а таксама незалежныя прадпрымальнікі.

Умовы ўдзелу: добрае веданьне ангельскай мовы, вопыт працы ў бізнэсе.

**Professional** — Лідары Недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў, да ўдзелу ў якой запрашаюцца спэцыялісты, што занятыя ў недзяржаўным сэктары і прадстаўляюць разнастайныя непрыбытковыя, няўрадавыя арганізацыі.

Умовы ўдзелу: перавага аддаецца спэцыялістам, якія маюць багаты вопыт працы ў сваёй сфэры дзейнасьці.

**Прэзэнтацыі, прысьвечаныя праграме Community Connections, адбудуцца:**

**У Берасьці — 7 верасьня ў 16.00**
**у Тэатры Лялек г. Берасьця (вул. Леніна, 56).**

**У Гомлі — 15 верасьня ў 16.00**
**у залі Гомельскага Маладзёвага Тэатру-студыі (пр-т Леніна,10).**

**У Гародні — 11 верасьня ў 16.00 у актавай залі Гарадзенскага дзяржаўнага мэдычнага унівэрсытэту(вул. Горкага, 80).**

**У Менску — 5 верасьня ў канфэрэнц-залі**
**гатэлю «Юбілейная» (пр. Машэрава, 19).**

**Для ўдзельнікаў накірунку «Professional» пачатак а 16-й гадзіне.**

**Для ўдзельнікаў накірунку «Business» пачатак а 18-й гадзіне.**

**У Магілеве — 22 верасьня ў 16.00 па адрасе:**
**вул. Ленінская, 61 (актавая заля).**

**У Віцебску — 25 верасьня ў 16.00**
**у актавай залі СШ № 17 (вул. Някрасава, 3).**

**ЗАПРАШАЮЦЦА ЎСЕ АХВОТНЫЯ.**

Каардынацыю праграмы ў Беларусі і адбор удзельнікаў праводзіць Амэрыканская Рада па супрацоўніцтве ў галіне адукацыі - ACCELS. Па дадатковыя зьвесткі можна зьвярнуцца на адрас:
220005, Менск, пр. Скарыны 31-18, ACCELS, праграма Community Connections;
тэл./факс: (017) 236-6883 284-72-29. E-mail: ComCon @accels.unibel.by
224005, г. Берасьце, вул. Куйбышава, 32. Тэл: (0162) 222-123. E-mail: breeic@brest.unibel.by

Гомель (023) 253-2910
Магілеў (022) 222-3971
Віцебск (021) 237-8342
Гародня (015) 233-5451



Наш адрас:
**п/с 196, Менск-36, 220036**

**Калі вы не атрымоўваеце наш бюлетэнь, а жадаеце гэтага – дашліце купон на наш адрас.**

Арганізацыя: ____________________
Імя: ____________________
Паштовы адрас: ____________________
____________________
Тэлефон: ____________________
E-mail: ____________________

**БЮЛЕТЭНЬ №5**
**ЖНІВЕНЬ 2000**

Матэрыялы падрыхтаваны
Выканаўчым Бюро
Асамблеі Дэмакратычных
Няўрадавых Арганізацый

Адрас п/с 196, Менск 220036
E-mail; ngo@user.unibel.by
http//ngo.unibel.by

Наклад 299 асобнікаў
Выходзіць раз на месяц
Распаўсюджваецца бясплатна